



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

2 кастрычніка 2020 года №40 (1327)

18+


# Павел Пяскоў і Уладзіслаў Еўсцігнееў атрымалі па тры гады калоніі за сутычку з амапаўцамі

Да будынка суда Маладзечанскага раёна у дзень абвяшчэння прысуду некалькі дзясяткаў чалавек прыйшлі падтрымаць Еўсцігнеева і Пяскова

Павел Пяскоў

Уладзіслаў Еўсцігнееў

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.





На Маладзечаншчыне ў 2021 годзе можа з'явіцца вятрак. Эксперт кажа, што ён будзе патрэбны нават пасля запуску АЭС

старонка 3

Прыгадаем гісторыю стара-жытнага Крэва

старонка 17



У Маладзечне асудзілі шматдзетнага бацьку

старонка 19

Пратэстоўцы выходзяць на вуліцы Маладзечна, але іх разганяюць міліцыянеры

старонка 18






ISSN 1991–7155



9 771991 715006 20040


Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Павел Пяскоў і Уладзіслаў Еўсцігнееў атрымалі па тры гады калоніі за сутычку з амапаўцамі

**28 і 29 верасня прайшлі пасяджэнні па справе гвалту над амапаўцамі. Апошнім сведкам выступіў судмедэксперт, прайшлі спрэчкі бакоў, а суддзя абвясціла прысуд.**

19 чэрвеня ў Маладзечне падчас ланцуга салідарнасці затрымалі **Міколу Алейніка**. Пасля гэтага адбылася сутычка паміж людзьмі і амапаўцамі. Следчы камітэт Беларусі ўзбудзіў крымінальную справу па артыкуле 363 «Супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў ці іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак».

Пацярпелыя – супрацоўнікі АМАП **Яўген Баранаў** і **Вячаслаў Якавенка**. Абвінавачанымі з'яўляюцца **Павел Пяскоў** і **Уладзіслаў Еўсцігнееў**. Адвакаты абвінавачаных – **Ігар Касцюк** і **Уладзіслаў Філіповіч**. Адзін з падазраваных – **Уладзімір Непагода** – знаходзіцца ў вышуку.

Дзяржаўны абвінаваўца – **Сяргей Габруковіч**. Суддзя – **Вікторыя Паляшчук**.

### Судмедэксперт: фотафіксацыя пашкоджанняў не прадугледжана

**Міхаіл Скабей** – судовы медэксперт. Менавіта ён аглядаў пацярпелых амапаўцаў, даваў заключэнне па іх пашкоджаннях.

Экспертызу правялі 20 чэрвеня. Скабей зафіксаваў у Якавенкі драпіну на левым калене памерам 2 см на 1,5 см. Адвакат Касцюк запытаўся, ці былі ў Якавенкі пашкоджаныя далоні. Судмедэксперт сказаў, што ў дакументах гэта не зафіксавана, таму не былі.

У Баранава па выніках судмедэкспертызы зафіксавалі дзве драпіны на правым локці іназе.

**По словах Скабея, фотафіксацыю пашкоджанняў не рабілі, таму што гэта не прадугледжана ўнутранымі распараджэннямі.**

Суддзя Паляшчук сказала, што судовае следства завершана.

### Спрэчкі бакоў

Дзяржаўны абвінаваўца Габруковіч лічыць, што на працягу следства высветліліся ўсе абставіны справы: Пяскоў аказаў супраціўленне Якавенку, а Еўсцігнееў – Баранаву.

Па словах Габруковіча, паказанні амапаўцаў дакладныя і не супярэчаць адзін аднаму.

Заўважыў, што ў іх былі маленькія недакладнасці, аднак у задачы амапаўцаў не ўваходзіць усё запамінаць, а потым даваць паказанні.

Габруковіч лічыць, што Пяскова і Еўсцігнеева трэба прызнаць вінаватымі ў парушэнні артыкула 363 Крымінальнага кодэкса. Абвінаваўца запрасіў для Паўла Пяскова тры гады і тры месяцы выпраўленчай калоніі, для Уладзіслава Еўсцігнеева – тры гады выпраўленчай калоніі.


Уладзіслаў Еўсцігнееў атрымаў тры гады калоніі.


Павел Пяскоў – тры гады і тры месяцы.

Уладзіслаў Філіповіч (адвакат Еўсцігнеева) заўважыў, што ў судовым разборы відавочна прывілеяванае становішча пацярпелых, якія нават не прысутнічаюць асабіста на пасяджэннях. Няма і прадстаўніка пацярпелых **Прыгодзіча**, які быў толькі на першым пасяджэнні.

Філіповіч лічыць, што трэба ведаць усе акалічнасці справы, каб выносіць прысуд. Напрыклад, па яго меркаванні, Еўсцігнееў не разумеў, што прысутнічае на несанкцыянíраваным мерапрыемстве. Міліцыянеры не растлумачылі, чаму тады было незаконна прысутнічаць у тым месцы.

На думку адваката, у той вечар на дзеянні Еўсцігнеева паўплывалі і асабістыя акалічнасці – гвалт бацькі ў дачыненні да маці. Таму Еўсцігнееў і кінуўся ў бок амапаўцаў, калі пачуў крык жанчыны.

Філіповіч заўважыў, што Еўсцігнееў характарызуецца вельмі станоўча з месца вучобы і працы, з'яўляецца каштоўным членам грамадства.

Ігар Касцюк (адвакат Пяскова) у сваёй прамове спасылаўся на міжнародныя акты, якія рэгулююць мірныя стыхійныя сходы. На яго думку, акцыя 19 чэрвеня ў Маладзечне была стыхійным сходам. Ён лічыць, што тады атрымаць дазвол ад райвыканкама ў кароткі прамежак часу было немагчыма.

Згодна з міжнароднымі актамі, якія ратыфікавала Беларусь, стыхійныя сходы могуць праходзіць у нашай краіне. Ім нельга перашкаджаць, толькі ў выпадку, калі яны перастаюць быць мірнымі.

Касцюк сказаў, што амапаўцы Баранаў і Якавенка затрымалі Мікалая Алейніка толькі таму, што акцыю не санкцыянíраваў Маладзечанскі райвыканкам. Падчас затрымання яны не прадставіліся і не патлумачылі Алейніку, чаму абмяжоўваюць яго правы і свабоды.

Па словах Касцюка, прадстаўнікі ўлады – амапаўцы – умяшаліся ў ход мірнага стыхійнага сходу. Касцюк лічыць, што канфлікт пачаўся менавіта з брутальнага затрымання Алейніка. Ён сказаў, калі б амапаўцы Баранаў і Якавенка паказалі пасведчанні, папрасілі прайсці ў службовы аўтамабіль, то сітуацыя развівалася б інакш. Касцюк лічыць, што брутальнае і агрэсіўнае затрыманне Алейніка спарадзіла агрэсію з боку людзей.

**Па словах адваката, паказанні амапаўцаў, як сведак, так і пацярпелых, трэба ўспрымаць крытычна.**

У многіх момантах ёсць разыходжанні ў паказаннях: напрыклад, тое, што **Шыйко** насамрэч даставаў пісталет. Касцюк сказаў, што амапаўцы, мяркуючы па іх паказаннях, дамовіліся даваць іх у адным ключы. А іх паказанні па перавозцы Алейніка з'яўляюцца ўвогуле непраўдзівымі – паказанні супрацоўнікаў Маладзечанскага РАУС абвяргаюць паказанні амапаўцаў.

### Апошнія словы Еўсцігнеева і Пяскова

– Я разумею, што здзейсніў кепскі ўчынак. Я каюся ў зробленым. З улікам таго, што тут было сказана, хачу падзякаваць свайму абаронцу Уладзіславу. Спадзяюся, што высокі суд абярэ тое пакаранне, з якім я застануся са сваёй маці, – сказаў Еўсцігнееў.

Пяскоў устрымаўся ад апошняга слова.

### Прысуд

Суддзя Вікторыя Паляшчук прызнала Пяскова і Еўсцігнеева вінаватымі. Пяскова прысудзілі да трох гадоў і трох месяцаў пазбаўлення свабоды ў выпраўленчай калоніі агульнага рэжыму, Еўсцігнеева – да трох гадоў. Дакладна столькі і запытваў дзяржаўны абвінаваўца.

Пасля абвяшчэння прысуду Еўсцігнеева ўзялі пад варту. Пяскоў быў падчас пасяджэння ў наручніках. Пасля абвяшчэння Павел сказаў:

– Не плачце, са мной усё нармальна. Жыве Беларусь!

Адвакаты Еўсцігнеева і Пяскова заявілі, што будуць абскарджваць прысуд. Ён яшчэ не ўступіў у сілу.

29 верасня пасля прысуду праваабаронца пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна» **Валянцін Стэфановіч** заявіў, што Уладзіслава Еўсцігнеева і Паўла Пяскова прызнаюць палітвязнямі.

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота Настассі УТКІНАЙ.**


Фота Дзяніса ЗЕЛЯНКО.

Энергія ветру і сонца будзе патрэбная нават пасля запуску АЭС, перакананая эксперт.

# Ля вёскі Клочкава пабудуюць вятрак

## Ці патрэбны ён, калі збіраюцца запусціць АЭС? Гутарым з экспертам

МАЛАДЗЕЧНА

**Ветраэнергетычная ўстаноўка павінна з'явіцца ў наступным годзе пад Маладзечнам. А разам з ёй – пад'язная дарога і лінія электраперадачы. Новыя аб'екты паўстануць на поўдзень ад вёскі Клочкава Маркаўскага сельсавета.**

Заказчыкам выступае таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЭнергаВінд». Згодна з юрыдычным адрасам, таварыства знаходзіцца ў Магілёве.

У Маладзечанскім райвыканкаме тлумачаць, што ветраэнергетычная ўстаноўка павінна з'явіцца ў мэтах павышэння энергетычнай бяспекі за кошт узнаўляльных крыніц энергіі.

Згодна з праектам, прадугледжваецца будаўніцтва адной устаноўкі магутнасцю тысяча кілават для вытворчасці электраэнергіі. Для падачы электраэнергіі ў дзяржаўныя электрасеткі павінны пракласці кабельную лінію. Аб'екты пабудуюць на землях Маладзечанскага райаграсэрвісу.

Пачатак будаўніцтва запланаваны на чацверты квартал гэтага года, заканчэнне – на першы квартал наступнага. Тэрмін эксплуатацыі ўстаноўкі – не менш за 20 год.

У Маладзечанскім райвыканкаме ад 29 жніўня да 27 верасня праводзілі грамадскае абмеркаванне праекта.

Да нас звярнуліся чытачы з пытаннем, наколькі патрэбная гэта ўстаноўка, калі ў хуткім часе плануюць запусціць Астравецкую АЭС. Адказаць на пытанне мы папрасілі эканамічнага аглядальніка **Таццяну Манёнак**.

### Эксперт: Ад альтэрнатыўнай энергетыкі не сысці

– Альтэрнатыўная энергетыка – сонечная і ветраная – гэта вельмі перспектыўна. Яе развіваюць усе краіны. Ад гэтай альтэрнатывы нікому не сысці. Заказчыкам выступае не дзяржава, а таварыства з абмежаванай адказнасцю. Калі б заказчыкам была дзяржава, рызыкі маглі б быць большыя. А прыватнік заўсёды з вялікай дакладнасцю пралічвае рызыкі і выгаду. Раз устаноўку вырашылі будаваць, значыць, прыватнік убачыў выгаду, нават нягледзячы на запуск АЭС.

У 2010 годзе, калі быў прыняты Закон аб узнаўляльных крыніцах энергіі, умовы для запуску такіх установак былі больш спрыяльныя. Тады альтэрнатыўная энергія куплялася па вялікіх каэфіцыентах. Ад гэтага часу альтэрнатыўная энергетыка, асабліва сонечная, стала развівацца вельмі імкліва. І гэта нават крыху напалохала дзяржаўных энергетыкаў. Бо ва ўсіх краінах гэты кірунак падтрымліваецца дзяржавай.

Нашы дзяржаўныя электрасеткі вымушаныя былі дорага купляць энергію з альтэрнатыўных крыніц і скардзіліся на пэўныя выдаткі. Пасля таго як увойдуць у эксплуатацыю два блокі атамнай станцыі, пачнуць рэгуляваць вытворчасць альтэрнатыўнай энергіі, бо трэба ж будзе кудысьці падзець і атамную. Цяпер вядуць перамовы аб магчымасці экспарту з Расіяй, але пакуль невядома, ці будзе ён. Канешне, дзяржава будзе стрымліваць развіццё альтэрнатыўнай энергетыкі, але ад яе нікуды не сысці. Альтэрнатыўная энергетыка будзе развівацца, хоць і не такімі імклівымі тэмпамі, як раней, – патлумачыла эксперт.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**338**

Столькі гасцініц працавала ў Беларусі ў 2019 годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.09 | 1.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5908 | **2.6236** |
| Еўра | 3.0296 | **3.0727** |
| Злоты, 10 | 6.7625 | **6.7755** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3936 | **3.3343** |
| Грыўня, 100 | 9.1909 | **9.2701** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **23.09** | **30.09** |
| Еўра | 2.9800/3.0800 | **3.0200/3.1100** |
| Долар ЗША | 2.5400/2.6200 | **2.5900/2.6600** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 23.09 | 30.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,99 | **23,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,78 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,50 | **17,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **3,60** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Персікі, 1 кг | 5,00 | **5,00** |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | **2,99** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **3,20** |

## Мужчына выпаў з пятага паверха. Ён загінуў

МАЛАДЗЕЧНА

Як расказаў карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Ілля Басько**, у Маладзечне загінуў 73-гадовы мужчына.

Па папярэдняй інфармацыі, 23 верасня, каля 19:20, мужчына выпаў з пятага паверха аднаго са шматкватэрных дамоў Маладзечна. Ад атрыманых траўмаў загінуў. Вядома, што мужчына жыў у гэтай кватэры. На месца выязджала следча-аператыўная група. Спецыялісты праводзяць праверку абставін здарэння.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Мужчына выратаваўся ад пажару дзякуючы пажарнаму апавяшчальніку

МАЛАДЗЕЧНА

24 верасня ў 21:12 паступіла паведамленне аб загаранні дома на вуліцы Мядзельскай у Маладзечне, пра знаходжанне чалавека ўнутры дома.

Да моманту прыбыцця па ўказаным адрасе высветлілася, што ў доме моцнае задымленне, тлеў матрац, гаспадар самастойна пакінуў дом.

Гаспадар расказаў, што выпіў, закурыў, заснуў на ложку, а прачнуўся ад гуку аўтаномнага пажарнага апавяшчальніка. Ён паведаміў аб тым, што здарылася, у экстранную службу.

Абставіны пажару ўдакладняюцца, прычына высвятляецца.

У выпадку пажару неадкладна набірайце 101 або 112.

Марына ГАНЧАРОВА,
Маладзечанскі ГРАНС.

## Гарэла трохпакаёўка

СМАРГОНЬ

Паведамленне пра пажар выратавальнікі атрымалі 24 верасня пасля дзесяці гадзін вечара. Гарэла трохпакаёўка, размешчаная на першым паверсе пяціпавярховага дома на вуліцы Заходняй. Ахвяр няма. Агонь пашкодзіў канапу ў адным з пакояў. Прычыны пажару высвятляюць.

Паводле МНС.

## Махляркі падманулі пенсіянерку

ВІЛЕЙКА

Падазраюць, што ў Вілейскім раёне махляркі скралі 830 рублёў і 400 долараў у пенсіянеркі. Фігуранткі трапілі ў жыллё да жанчыны як гандляркі. Прасілі набыць у іх пакрывала, прынесці папіць вады, прапанавалі паваражыць.

Аналіз такіх злачынстваў паказвае, што ўсе падобныя крадзяжы адбываюцца ў будныя дні. Найбольш часта церпяць сталыя жыхары малалюдных вёсак.

Паводле
УУС Мінаблвыканкама.

## Машына збіла 15-гадовага раварыста

МАЛАДЗЕЧНА

У Маладзечне 26 верасня каля васьмі гадзін вечара 31-гадовая кіроўца «Дэу-Нубіра», па папярэдняй інфармацыі, пры павароце наехала на 15-гадовага раварыста.

Дзевяцікласнік перасякаў дарогу на чырвонае святло. З цялеснымі пашкоджаннямі школьніка даставілі ў бальніцу. Ровар не быў абсталяваны святлоадбівальнымі элементамі.

Паводле МУС.

## Гарэла машына ў гаражы

АСТРАВЕЦ

У панядзелак, 28 верасня, у Астраўцы па вуліцы Савецкай гарэла машына.

Паведамленне пра ўзгаранне ў раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях паступіла ў 11:30.

Каля 10 раніцы ўладальнік загнаў аўтамабіль, які стаяў з мінулага дня на вуліцы, у гараж і стаў займацца гаспадарчымі справамі. Праз нейкі час мужчына пачуў брэх сабакі і выглянуў на вуліцу. Пабачыў, што гарыць машына ў гаражы.

Жонка гаспадара выклікала выратавальнікаў. Сам паспрабаваў заліць вадой. Агонь пашкодзіў пярэднюю частку машыны і частку перакрыцця гаража. Папярэдне прычынай узгарання стала кароткае замыканне электраправодкі аўтамабіля.

Паводле.ostrovets.by.

## Грыбнік амаль суткі правёў у лесе

ВІЛЕЙКА

27 верасня каля сямі раніцы мужчына пайшоў у грыбы з вёскі Лявонавічы. Ён заблукаў. Знайсці грыбніка змаглі 28 верасня, бліжэй да раніцы, расказалі ў Вілейскім РАУС.

Грыбнік карыстаецца мабільнікам, але яго не ўзяў з сабой. Гэта ўскладніла пошукі. Ужо ў абед родныя пачалі непакоіцца, паведамілі пра знікненне. Грыбніка шукалі вечар і ноч. Калі знайшлі, меддапамога яму не спатрэбілася.

У пошуках удзельнічалі работнікі Вілейскага РАУС, РАНС і валанцёры «Анёла».

Аксана ЯРАШОНАК.




Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

У адной з крам рэгіёна.

# Віляйчук скраў з магазіна піва, два «Снікерсы» і цукеркі

### Днямі яму агучылі прысуд

ВІЛЕЙКА

**34-гадовага вілейчука судзілі за крадзеж. Здарэнне адбылося сёлета 2 жніўня. Днямі фігуранту агучылі прысуд.**

– Мужчына ў 2019 годзе ужо быў асуджаны за крадзеж. Атрымаў пакаранне – папраўчыя работы. У перыяд неадбытага пакарання ён здзейсніў яшчэ адно злачынства, – паведаміла карэспандэнту памочнік галоўнага пракурора Вілейшчыны **Наталля Стрэж**.

Па яе словах, сёлета 2 жніўня мужчына выпіў дома. Каля 13:30 пайшоў у краму «Дабраном». Там скраў бутэльку піва, два шакаладныя батончыкі «Снікерс» і цукеркі «Холс». Піва схаваў у рукаво, шакаладкі і цукеркі – у кішэні. Каб адцягнуць увагу прадаўца, узяў бутэльку мінеральнай вады і падышоў да касы, каб за яе разлічыцца. Аднак прадавец папрасіла паказаць, што ён схаваў.

Тады фігурант уцёк з магазіна з півам, шакаладкамі і цукеркамі. Скрадзенае схаваў дома. У хуткім часе да яго прыйшлі міліцыянеры. Мужчына прызнаўся ў зробленым і паказаў скрадзенае.

– Фігурант станоўча характарызуецца па месцы працы і пражывання. Суд гэта ўлічыў. Улічылі таксама тое, што мужчына мае дваіх малалетніх дзяцей і што ён прызнаўся ў зробленым. Абставінамі, што абцяжарвалі здзейсненае злачынства, стала алкагольнае ап'яненне і што мужчына здзейсніў яго, не адбыўшы пакарання за ранейшы крадзеж, – растлумачыла Наталля Стрэж.

У выніку віляйчук атрымаў год і два месяцы абмежавання волі без накіравання ў адпаведную ўстанову. Яго папярэдзілі, што калі будзе парушаць правілы прызначанага пакарання, тады атрымае тэрмін, звязаны з пазбаўленнем волі.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Мужчына гатаваў ежу і спаліў дом

МАЛАДЗЕЧНА

30 верасня каля шасці гадзін раніцы на нумар 101 у Маладзечанскі ГРАНС паступіла паведамленне аб пажары ў садовым таварыстве «Дружба», што ў вёсцы Баяры Красненскага сельсавета. Пра пажар у МНС паведамілі суседзі. Выратавальнікі патушылі пажар.

Як расказаў старшыня садовага таварыства, дачны домік шмат гадоў ніхто не наведваў. У ім дазволілі пажыць 81-гадоваму пенсіянеру, які ў 2018 годзе застаўся без дачы, бо спаліў у гэтым жа таварыстве свой дом, калі гатаваў ежу на печцы-буржуйцы.

Па словах суседзяў, на гэты раз пенсіянер таксама гатаваў сабе ежу на печцы-буржуйцы. У выніку і другая дача цалкам згарэла, паведамілі ў ГРАНС Маладзечна.

Аддзел інфармацыі.

## Ампаўцы садралі бел-чырвона-белы сцяг з матацыкла

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта нам расказалі відавочцы. Усё адбылося 27 верасня каля паловы пятай вечара.

Мужчыны бавілі час у двары непадалёк ад райаддзела міліцыі. Заўважылі, што на стаянцы каля іх прыпаркаваны матацыкл з прымацаваным бел-чырвона-белым сцягам.

Маладзечанцы вырашылі сфатаграфавацца каля сцяга, паздымалі сам матацыкл.

– Раптам спыняецца бус, адтуль выскокваюць амапаўцы і пачынаюць здзіраць сцяг, – кажа адзін з відавочцаў.

Тое, што 27 верасня ў Маладзечне былі супрацоўнікі ў форме АМАПа, зафіксавалі і карэспандэнты «Рэгіянальнай газеты».

Аддзел інфармацыі.

## За выхадныя на Маладзечаншчыне здарыліся два пажары

МАЛАДЗЕЧНА

Днём 26 верасня здарыўся пажар у вёсцы Зоранька. А ноччу 27 верасня выратавальнікі выязджалі ў Слабодку.

У Зораньку выратавальнікі прыехалі на месца здарэння і патушылі агонь, які ахапіў драўляную гаспадарчую пабудову. Прычыну пажару высвятляюць. Меркаваная прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Пацярпелых няма.

У Слабодцы гарэла лазня. Меркаваная версія – парушэнне правілаў выкарыстання печкі, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад. Агонь пашкодзіў дах і перакрыцце. Пацярпелых няма.

Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне адбылося каля 15 падобных пажараў. Многія будынкі ў выніку іх знішчаныя цалкам. Там, дзе гаспадары своечасова заўважылі пажар і выклікалі пажарных, часткова ўдалося захаваць пабудовы.

Асноўная прычына пажараў у лазнях – гэта парушэнне правілаў уладкавання і эксплуатацыі пячнога абсталявання.

Маладзечанскі ГРАНС.




| | Адрес | № квартиры | Сумма без пени | пеня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | 3 | 57,83 | 7,06 |
| 2 | | 21 | 29,74 | 1,61 |
| 3 | | 32 | 10,91 | |
| | | 33 | 26,87 | |
| | | 45 | 15 | |
| | | 60 | 44,72 | |
| | | 63 | | 17,91 |

Такія спісы вешаюць на пад'езды шматкватэрных дамоў.

# Ці варта вывешваць спісы даўгоў за аплату кватэры

**Чытачы паведамляюць нам, што на пад'ездах некаторых шматкватэрных дамоў Маладзечна вывешваюць спісы запазычанасці па аплаце за кватэру.**

У спісах пазначаюць нумары кватэр і суму, якую жыхары гэтай кватэры не пагасілі.

– Імён і прозвішчаў гаспадароў кватэр у спісах няма, – адзначае адна з чытачак. – Але ў пад'ездзе ўсе адзін аднаго ведаюць па кватэрах. Калі я спыталася ў домакіраўніцтве, як гэтыя спісы абгрунтаваныя з прававога пункта гледжання, мне толькі задавалі сустрэчнае пытанне – а чаму вы думаеце, што такога права ў нас няма?

> **Мне так і не патлумачылі, чаму такую інфармацыю распарадзіліся вывешваць у агульнадаступным месцы, каб усе іх бачылі.**

Хаця можна накіроўваць паведамленне пра запазычанасць прыватна кожнаму ўласніку, у якога доўг.

Чытачка дадае, што людзі могуць не плаціць за кватэру па розных прычынах. Некаторыя – у знак пратэсту.

> **– Асабліва абурае, што патрабаванні пра вывешванне пратаколаў аб выніках галасавання на прэзідэнцкіх выбарах для ўсеагульнага доступу праігнаравалі, – дадае маладзечанка.**

– Тут жа зваротная сітуацыя. Іх ніхто не просіць публічна распаўсюджваць гэту інфармацыю, а яны распаўсюджваюць.

Жанчына звяртае ўвагу на палажэнне аб парадку пераразліку платы за некаторыя віды камунальных паслуг, зацверджанае пастановай Савета Міністраў. Паводле дакумента, калі грамадзянін без уважлівай прычыны мае запазычанасць за два і больш разліковых перыядаў і не пагасіў яе цягам пяці дзён пасля пісьмовага папярэджвання, якое дастаўляецца па пошце заказным лістом або ўручаецца пад распіску, камунальная арганізацыя можа прыпыніць свае паслугі.

### Паспрабуйце паразумецца з суседзямі

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі дырэктара мінскага прыватнага прадпрыемства «Аймалін», якое аказвае жыллёва-камунальныя паслугі ў Мінску, **Віктара Кліменку**.




Калі вы не плаціце за кватэру, будзьце гатовыя да размовы з суседзямі.

У шматкватэрным доме жывуць уласнікі пад адным дахам. Яны аб'яднаныя тым, што разам аднолькава адказваюць за стан і догляд дома. Таму калі ёсць злосныя неплацельшчыкі, то вывешванне спісаў можа быць стымулам для аплаты. А суседзі могуць абгрунтавана быць незадаволеныя тым, што хтосьці з жыхароў не плаціць частку агульнай сумы.

Крыху іншая сітуацыя тычыцца тых, хто не плаціць за кватэру з прычыны пратэсту. У першую чаргу дырэктар прадпрыемства раіць такім жыхарам паспрабаваць знайсці паразуменне з суседзямі і патлумачыць прычыны няесплаты. Яшчэ адзін момант – з квартплаты частка сумы ідзе на пакрыццё паслуг, частка – у бюджэт. І жыхары, чые дамы абслугоўвае звычайная ЖЭС, не адсочваюць розніцу паміж сумамі, што пайшлі ў бюджэт, і якія забяспечылі паслугі. Напрыклад, падагрэў вады быў забяспечаны, на гэта пайшлі рэсурсы. І калі іх не аплаціць, то бюджэт не далічыцца пэўнай сумы. Сума ж, што ідзе ў бюджэт, ідзе на тыя ж заробкі чыноўнікам. Пры няесплаце камунальнай платы не будзе ні грошай для бюджэту, ні для пакрыцця паслуг.

Кліменка патлумачыў, што вельмі мала камунальных арганізацый у Беларусі прыватнага характару, якія працуюць па прынцыпе самакіравання. Прытым ён на сваім досведзе ведае, наколькі вялікая розніца ў стаўленні да агульнай уласнасці, калі гэта прыватны ЖЭС і калі дзяржаўны. Пры прыватнай форме людзі дбаюць пра кожную лямпачку, сочаць за парадкам і тым, каб не пераплачваць. У такім выпадку ўласнікі нашмат больш адказныя.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20. |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40. |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17. |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85. |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03; вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39. |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65. |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 4-47-16 |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Нісан-Прымера, 1999 г.в., 1,6 л, газ-бензін, 480000 км. На ходу, нядорага. Т. (8-029) 9959778.

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Прычэп «Зубраня» аўтамабільны. Т. (8-044) 4703638.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у аг Беразінскае, плошча 114 кв.м, участак 12 сотак, з усімі выгодамі, надворнымі пабудовамі, садам. Т. (8-029) 8597976.*

• Дом, в. Більцавічы, з пабудовамі. Т. (8-033)3256297, (8-0176) 540448.

• Зруб. Т. (8-044) 4781305.*

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру на 1-пакаёвую або 2-пакаёвую, Вілейка, р-н «Зеніт». Т. (8-033) 3018245.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (свіджын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (свіджын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота на кубак, майку. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т.(8-029) 6631595.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне. Культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Інда-качкі. Т. (8-029) 5005707, (8-01771) 38177.

• Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*

• Карова, 7 год. Т. (8-029) 7518549, (8-0176) 504159.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*



• Парасяты в'етнамскай пароды буйных – 60 руб., парасяты пароды кармалы – 70 руб. Т. (8-029) 8509854.

• Парасяты пароды кармалы узростам 5-6 тыдняў. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 503195.

• Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

• Бульба буйная Ласунак з дастаўкай па Маладзечне і Смаргоні. Т. (8-029) 7664214.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Самца хвалістага папугая або папугая карэла. (8-029)5019550.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Фотаапараты «Зеніт» і розныя аб'ектывы. Т. (8-029) 2988005.*

### АДДАМ

• Аддам у добрыя рукі хамякоў і папугая амадзін. Т. (8-029) 5019550.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

# На вуліцы стрыт-фуда выступілі Бенька і «Разбітае сэрца пацана»

**Канцэрт адразу двух выканаўцаў прайшоў у Маладзечне 24 верасня. Сустрэць іх сабралася больш за сотню маладзечанцаў.**

Бенька – так сябе называе **Святлана Бень**, якая шмат год была лідарам гурта «Сярэбранае вяселле».

**Святлана спачатку выканала некалькі сваіх песень, а пасля выступала разам з РСП.**

Гурт «Разбітае сэрца пацана», або РСП – беларуская каманда, якая выконвае песні на трасянцы.

**Адна з найбольш вядомых песень гурта «Розавы закат» таксама прагучала для наведнікаў установ стрыт-фуда.**

«Маладзечна! Мы ехалі і думалі, што будзе нешта сціплае, а як убачылі, колькі вас, дык дзіву даліся!

Бенька, гатовы падпяваць і падыгрываць табе вечна. З табой на сцэне харашо!» – напісалі музыканты «Разбітага сэрца пацана» на сваёй старонцы «УКантакце» пасля канцэрта.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Настассі УЛІННАЙ.

Святлана Бень і франтмэн «Разбітага сэрца пацана» Дзяніс Тарасенка.









**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |




Кадр з фільма «Парфумер».

# Пяць нямецкіх кніг для восеньскіх вечароў

**Восень – перыяд года, калі з асаблівым задавальненнем можна разгарнуць новую кнігу і правесці з ёй восеньскі вечар. Прапануем вам спіс некалькіх кніг нямецкіх аўтараў, якія могуць вас захапіць.**

**1. «Трыумфальная арка», Эрых Марыя Рэмарк**

Раман апісвае падзеі ў Еўропе за некалькі год да пачатку Другой сусветнай вайны.

**Нямецкі хірург без грамадзянства жыве ў Парыжы, аперыруе пацыентаў. Ён – эмігрант, і над ім заўсёды вісіць пагроза – у любы момант могуць выслаць або арыштаваць.**

Галоўны герой знаёміцца з італьянскай актрысай, з якой завязваецца бурны раман. У іх вельмі напружаныя адносіны, якія яны пастаянна высвятляюць. Чакае героя і сустрэча з галоўным мучыцелем. У канцы рамана пачынаецца вайна, якая вымушае кожнага рабіць свой выбар.

**2. «Парфумер», Патрык Зюскінд**

Раман напісаны мовай, ад якой чытач будзе ў захапленні – гэта асалода, калі аўтар можа пісаць тонка і з гумарам.

**Разам з тым, галоўны герой, які падаецца небаракам, трымае на сабе ўвагу, ад яго немагчыма адвесці вачэй.**

Герой з цяжкасцю прыйшоў у свет, рос у беднаце і адзіноце. У смярдзючым Парыжы 18 стагоддзя герой быў адметны яшчэ і тым, што нічым не пах. Гэта было дзіўна і ніяк не тлумачылася.

Раман падрабязна апісвае адчуванні чалавека, якога не прымаюць у грамадстве.

**Дакладнае апісанне побыту і горада 300-гадовай даўніны – яшчэ адна асалода, якая чакае чытача.**

**3. «Чытальнік», Бернхард Шлінк**

Гэта гісторыя кахання, якое ўспыхнула паміж 15-гадовым падлеткам, які паходзіць з сям'і прафесара, і дарослай жанчынай.

**Каханая раптоўна знікла з горада, і малады чалавек вельмі няпроста перажываў такое развітанне.**

Праз восем год ён стаў студэнтам выпускнога курса юрыдычнага факультэта. Мужчына прысутнічаў на судовым працэсе супраць нацысцкіх злачынцаў.

**Сярод былых наглядальніц жаночага канцлагера была яна, яго каханая.**

Перад чытачом раскрываюцца і іншыя таямніцы. І паўстае выбар: ці раскрыць сакрэт, якога саромеешся, каб выратаваць сябе?

**4. «Фаўст», Іаган Вольфганг фон Гётэ**

Гэта філасофская драма, якая ўяўляе сабой апрацаваную легенду пра доктара Фаўста.

**Гэты твор для няспешнага, удумлівага чытання, дзе вы будзеце сачыць не толькі за сюжэтам, але і за кожнай думкай.**

Што Мефістофель сам не разумеў пра сябе? Які лёс чакае каханую Фаўста Маргарыту? Што здарыцца ў Вальпургіеву ноч?

**Менавіта ў гэтай кнізе вы знойдзеце непараўнальныя цытаты: «Спыніся, імгненне, – ты чароўнае!», «Я – частка той сілы, што вечна прагне зла і вечна здзяйсняе дабро» і іншыя.**

Твор, поўны містыкі, няпростых пытанняў і чароўных адказаў – усё гэта чакае чытача галоўнага твора Гётэ.

**5. «Казкі», Вільгельм Гаўф**

Не падманвайцеся назвай – гэтыя творы не будуць у дастатковай ступені зразумелыя дзецям, хаця і ім будуць цікавыя сюжэты. Зручна абраць адразу зборнік або пачытаць проста некалькі казак. Вось назвы некаторых з тых, якія звычайна рэкамендуюць: «Гісторыя пра каліф-бусла», «Караван», «Гісторыя пра карабель-прывід», «Гісторыя пра маленькага Мука», «Карлік Нос», «Халоднае сэрца».

**Эмілія ХВОЯ.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Фрыда»



Фота pinterest.com.

**Драма 2002 года, якая расказвае пра жыццё мексіканскай мастачкі Фрыды Кала. Фільм заснаваны на кнізе Хэйдэна Эрэра «Фрыда: Біяграфія Фрыды Кала».**

Фільм з'яўляецца лаўрэатам прэміі «Оскар» у намінацыях «Лепшая музыка да фільма» і «Лепшы грым». Выканаўца галоўнай ролі **Сальма Хаек** за акцёрскую працу ў стужцы вылучалася на прэміі «Оскар», «Залаты глобус» і BAFTA.

### Сюжэт

Гэты фільм – пранізлівая біяграфія іспанскай мастачкі Фрыды Кала. Фізічны боль ад траўмаў і душэўны боль ад праблем у сям'і загартавалі яе характар і зрабілі па-сапраўднаму моцнай жанчынай.

Дзеянне фільма пачынаецца з самых ранніх гадоў жыцця будучай мастачкі. У шасцігадовым узросце ёй дыягнаставалі поліяміеліт. Праз дзевяць гадоў Фрыда трапіла ў жудасную аўтамабільную аварыю, якая вельмі моцна паўплывала на яе далейшы лёс. З-за шматлікіх аперацый і пераламанага пазваночніка з пятнаццаці гадоў ёй было загадана насіць жорсткі гарсэт, які прыносіў дзяўчыне адны толькі пакуты. А затым было замужжа, гарачае каханне, здрады і пакуты, якія не пакідалі гэту яркую адыёзную жанчыну да канца жыцця. Прызнаны талент і сусветная вядомасць прынеслі з сабой толькі роспач і ганебнае падзенне на самае дно. Алкагалізм, інвалідная каляска і мноства аўтапартрэтаў – гэта ўсё, што засталося ў Фрыды на заходзе яе бурнага і зіхатлівага жыцця.

Выканаўца галоўнай ролі Сальма Хаек больш за дзесяць гадоў дабівалася, каб гісторыя адной з самых знакамітых мастачак 20 стагоддзя знайшла свайго гледача.

### Што адбывалася па-за здымачнай пляцоўкай

У 2017 годзе газета New York Times апублікавала артыкул Сальмы Хаек, у якой падрабязна апісваліся жорсткія паводзіны Харві Вайнштэйна ў адносінах да Хаек і рэжысёра Джулі Тэймар.

Па словах Хаек, Вайнштэйн дамагаўся, каб Хаек знялася голай ў адной са сцэн. Хаек і Тэймар адмаўляліся, таму што гэта было непатрэбна з-за сцэнарыя.

– Мне было ясна, што ён ніколі не дазволіць мне скончыць гэты фільм без яго сэксуальных фантазій у стужцы. Не было магчымасці весці перамовы, мне давялося сказаць «так», – пісала Хаек.

Вайнштэйн выступіў з заявай, адмаўляючы большасць абвінавачванняў. Аднак прызнаў, што яго паводзіны ў адносінах да Тэймар былі «хамскія».

Гэта заява парушыла публічнае маўчанне Вайнштэйна пасля мноства падобных заяў актрыс. Нагадаем, у 2017 годзе каля дзясятка амерыканскіх актрыс абвінавацілі Харві Вайнштэйнта ў сэксульных дамаганнях і гвалце.

### Цікавосткі

Пляменніца Фрыды Кала была настолькі ўражаная фільмам, што падарыла Сальме Хаек адну з падвесак Кала.

Чавела Варгас, які спявае ў бары Фрыдзе песню, ведаў сапраўдную Фрыду Кала. І ў яго з ёй быў раман.

Гэта адзіная роля Сальмы Хаек, пасля якой яе намінавалі на «Оскар».

Паглядзець «Фрыду» можна 3 кастрычніка ў 7:00 на TV1000.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 5 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.00, 21.05, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ»**.
**8.25** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ»**.
**10.00** Д/ф.
**11.00** Смотрим всей семьей: «Гарри Поттер. Дары смерти».
**13.15, 18.05** Т/с **«ВЕДЬМАК»**.
**14.15** Т/с **«ДВЕ ЗИМЫ И ТРИ ЛЕТА»**.
**16.25** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ»**.
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Т/с **«ДЕЛО №1»**.
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ТЕМНЫЕ ВОДЫ»**.
**23.15** Х/ф **«МАГИЯ»**.
**1.00** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ»**.

**ВТОРНИК, 6 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 17.55, 21.10, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.35** «Мульт-парад».
**7.30, 15.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ»**.
**9.00, 19.05** Т/с **«ДЕЛО №1»**.
**9.50** «Архив СБ ТВ».
**10.45** Х/ф **«ТЕМНЫЕ ВОДЫ»**.
**12.50, 18.00** Т/с **«ВЕДЬМАК»**.
**14.00** Т/с **«ДВЕ ЗИМЫ И ТРИ ЛЕТА»**.
**15.25** Погода+ Эрана.
**16.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.25** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ»**.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ДИКАЯ ЛИГА»**.
**23.05** Х/ф **«ЗОВ ПРЕДКОВ»**.
**0.45** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ»**.

**СРЕДА, 7 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 17.55, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ»**.
**8.20, 19.00** Т/с **«ДЕЛО №1»**.
**10.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф».
**10.20** Д/ф.
**11.20** Х/ф **«ДИКАЯ ЛИГА»**.
**13.15, 18.00** Т/с **«ВЕДЬМАК»**.
**14.20** Т/с **«ДВЕ ЗИМЫ И ТРИ ЛЕТА»**.
**16.25** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ»**.
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«АВАТАР»**.
**0.15** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ»**.

**ЧЕТВЕРГ, 8 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.35, 21.10, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.45** «Мульт-парад».
**7.30, 15.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ»**.
**8.30, 19.05** Т/с **«ДЕЛО №1»**.
**10.15** Д/ф.
**10.00** Х/ф **«АВАТАР»**.
**13.05, 18.00** Т/с **«ВЕДЬМАК»**.
**14.05** Т/с **«ДВЕ ЗИМЫ И ТРИ ЛЕТА»**.
**16.10** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ»**.
**17.45** «Фешн is my професьн».
**19.00** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПРОВОКАТОР»**.
**0.15** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ»**.

**ПЯТНИЦА, 9 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ»**.
**8.20, 20.00** Т/с **«ДЕЛО №1»**.
**10.00** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.15** Х/ф **«ПРОВОКАТОР»**.
**13.20, 18.00** Т/с **«ВЕДЬМАК»**.
**14.20** Т/с **«ДВЕ ЗИМЫ И ТРИ ЛЕТА»**.
**16.25** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ»**.
**19.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗАВИСНУТЬ В ПАЛМ-СПРИНГС»**.
**22.45** Х/ф **«ОДИННАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА»**.
**0.40** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ»**.

**СУББОТА, 10 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.10, 19.15, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы «Пушистый шпион».
**8.25** «Приколы 13-й школы».
**8.30** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК АМФИБИЯ»**.
**10.00** Х/ф **«ГОСУДАРЫНЯ»**.
**13.35** Х/ф **«ЗАВИСНУТЬ В ПАЛМ-СПРИНГС»**.
**15.15** Смотрим всей семьей: «Фантастические твари и где они обитают».
**17.45** Х/ф **«АЙВАН – ЕДИНСТВЕННЫЙ И НЕПОВТОРИМЫЙ»**.
**19.20** Х/ф **«НЕ МОЕ СОБАЧЬЕ ДЕЛО»**.
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my професьн».
**21.20** Х/ф **«ДВЕНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА»**.
**23.25** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ»**.
**1.20** «Погода».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 13.25, 16.45, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Кролик Питер».
**8.55** «Приколы 13-й школы».
**9.00** Х/ф **«ГОСУДАРЫНЯ»**.
**13.30** Мультфильмы «Балерина».
**15.05** Х/ф **«ВОЛШЕБНЫЙ ЛАГЕРЬ»**.
**16.50** Х/ф **«ПЛЕННИЦА ЧЕРНОГО ОМУТА»**.
**18.25** Т/с **«КАСЛ»**.
**19.10, 1.10** «Погода».
**19.15** Х/ф **«ЛЕТО, ОДНОКЛАССНИКИ, ЛЮБОВЬ»**.
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТРИНАДЦАТЬ ДРУЗЕЙ ОУШЕНА»**.
**23.20** Х/ф **«ВОСЕМЬ ПОДРУГ ОУШЕНА»**.

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 5 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА»**.
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА»**.
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ»**.
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ»**.
**15.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ»**.
**17.10** Х/ф **«МИЛЛИАРД»**.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ТАРИФ»**.
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 6 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Рядом со звездой.
**8.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ»**.
**13.00** Х/ф **«2+1»**.
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО»**.
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА»**.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ»**.
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 7 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА»**.
**10.00** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА»**.
**13.00** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ»**.
**16.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ»**.
**19.15** Квартал 21 (МЧС).
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 8 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Квартал 21 (МЧС).
**8.15** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА»**.
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ»**.
**12.00** Х/ф **«КОМАНДА МЕЧТЫ»**.
**15.00** Рядом со звездой.
**19.15** Всё обо всём.
**19.30** Актуально.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ»**.
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 9 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК»**.
**9.40** По правилам таможни.
**11.40** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО»**.
**13.45** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ»**.
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ»**.
**16.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ»**.
**19.15** Театральная гостиная.
**20.15** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА»**.
**22.00** Новости:время местное.
**22.15** Мажорный лад.

**СУББОТА, 10 ОКТЯБРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.15, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Рядом со звездой.
**13.00** Х/ф **«ПЯТЬ НЕВЕСТ»**.
**14.50** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР»**.
**16.25, 21.10** Новости БЖД.
**16.50, 22.15** Мажорный лад.
**19.30** Мастерство и фантазия.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ»**.
**9.00** Х/ф **«МИЛЛИАРД»**.
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ»**.
**12.50** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ»**.
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО»**.
**16.40** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ»**.
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ»**.
**20.00** Х/ф **«БАБЛО»**.
**21.30** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС»**.

## Беларусь 1

**6.30** Х/ф **«КАЛЕЙДОСКОП СУДЬБЫ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Родные люди.

**15.30** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**16.10** Один день.

**16.40, 19.10** Х/ф **«ПЕЧЕНЬЕ С ПРЕДСКАЗАНИЕМ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ПРИВЕТ ОТ АИСТА».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 19.40** Телебарометр.

**9.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.15** «Человек-невидимка». Реалити-шоу. Заключительный выпуск 16+).

**11.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.15** Х/ф **«БОЕВОЙ КОНЬ».**

**14.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОИМ ПАРНЕМ».**

**23.00** Х/ф **«КРОЛИЧЬЯ НОРА».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.15, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 14.35** Гэты дзень.

**8.25** «Прыгажун і пачвара». Мультфільм.

**8.30** «Дача». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Зразы бульбяныя.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Начное здарэнне». Мастацкі фільм СТ.

**13.20** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2019». «Зорны карагод».

**14.40** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм СТ.

**16.00** «Камертон». Народны артыст Беларусі Яўген Гладкоў.

**16.25** «Вазьму твой боль». Мастацкі фільм СТ.

**17.50** В.Кузняцоў. «Анастасія». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

**19.30** «Кадры жыцця». Балерына, народная артыстка Беларусі Ірына Яромкіна.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Ясенін». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** «Непутёвые заметки».

**9.35** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.55, 21.20** Х/ф **«ФОТО НА НЕДОБРУЮ ПАМЯТЬ».**

**11.50** «Видели видео?».

**13.45** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**15.00** К юбилею Виктора Павлова. «Между ангелом и бесом».

**16.20** Премьера. Праздничный концерт.

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**23.15** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.35** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ».**

## СТВ

**6.35, 0.10** «Секретные территории».

**8.15** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 13.40, 20.50** Документальный спецпроект.

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**16.00, 16.40** Т/с **«ТРЕТЬЕГО НЕ ДАНО».**

**19.30** «Неделя».

**22.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Т/с **«40+, ИЛИ ГЕОМЕТРИЯ ЧУВСТВ».**

**5.20** Мультфильмы.

**6.55** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«ЗАБУДЬ И ВСПОМНИ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**23.15, 1.00** Т/с **«БОЛЬШОЕ ЗЛО И МЕЛКИЕ ПАКОСТИ».**

**3.50** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.40** Истории спасения.

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.10** Криминальный детектив «Собачья работа».

**16.20** За гранью.

**16.30** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.25** Ты не поверишь!

**22.20** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ТАКСИСТКА».**

**10.35, 11.30** Х/ф **«ЧЁРНАЯ МЕТКА».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.35** Х/ф **«ОЛЮШКА».**

**16.30** Х/ф **«НЕТ ЖИЗНИ БЕЗ ТЕБЯ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«ОБЕТ МОЛЧАНИЯ».**

**23.00** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.35** Предчувствие. **8.10** Репродукция. **10.00** Форсаж 4. **11.50** Форсаж 5. **14.05** Форсаж 6. **16.25** Каратэ-пацан. **19.00** Шанхайские рыцари. **21.00** Никогда не сдавайся. **23.05, 5.00** Нокаут. **0.35** Век Адалин. **2.45** Гостья.

### TV1000 ACTION

**6.20** Точка невозврата. **8.15** Время псов. **9.40** Криминальное чтиво. **12.15** Дети шпионов. **13.45** Дети шпионов 2: Остров несбывшихся надежд. **15.35** Дети шпионов 3: Игра окончена. **17.00** Не шутите с Zоханом! **19.00** Копы в глубоком запасе. **20.50** Старски и Хатч. **22.30, 5.10** Шутки в сторону 2: Миссия в Майами. **0.20** Экспат. **2.30** Халк.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Волкодав из рода Серых Псов. **9.35** Ярослав. Тысячу лет назад. **11.20** Со дна вершины. **13.15** Иван Царевич и Серый Волк. **14.50** Иван Царевич и Серый Волк 2. **16.05** Иван Царевич и Серый Волк 3. **17.30** Иван Царевич и Серый Волк 4. **19.00** На районе. **20.45** Экипаж. **23.10** Легенда №17. **1.25, 2.50** Х/ф. **4.20** Защитники. **5.50** Отрыв.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.30** «Новый день». **9.00** Х/ф **«БЕТХОВЕН-4». 11.00** Х/ф **«АКУЛЫ В МИССИСИПИ». 12.45** Х/ф **«ВРАТА». 14.45** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ». 17.00** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ». 19.00** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ». 21.00** Х/ф **«ФАКУЛЬТЕТ». 23.00** Х/ф **«ОЗЕРО СТРАХА: АНАКОНДА». 1.00** Х/ф **«ОТЕЛЬ «. 2.30** Х/ф **«УБИЙСТВА В АМИТИВИЛЛЕ». 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ГРОМОВЫ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 12.00, 20.00** Т/с **«ВЕРБНОЕ ВОСКРЕСЕНЬЕ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ВЕРЬ МНЕ». 14.00, 22.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. 2 с. **15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ФАЛЬШИВОМОНЕТЧИКИ». 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ». 4.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 6.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. 1 с.

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«ОТ СЕМЬИ НЕ УБЕЖИШЬ». 3.20** Х/ф **«РОБИН ГУД». 5.50** Х/ф **«ПАРК КУЛЬТУРЫ И ОТДЫХА». 7.50** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 9.35** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА». 11.40** Мультфильмы «Три богатыря: Ход конем». **13.05** Мультфильмы «Три богатыря и морской царь». **14.35** Мультфильмы «Три богатыря и принцесса Египта». **15.55** Мультфильмы «Три богатыря и наследница престола». **17.30** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ». 19.30** Х/ф **«КЕЙТ И ЛЕО». 21.45** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 23.40** Х/ф **«МИССИЯ: НЕАДЕКВАТНА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.35, 10.10, 11.05, 12.00, 12.55** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 1.30, 2.30, 4.00, 5.00, 6.05, 7.05, 8.05, 9.10** Т/с **«КОМИССАРША». 13.50, 14.50, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 22.00, 23.00** Т/с **«КОНСУЛЬТАНТ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.25** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.50** Х/ф **«ANGRY BIRDS В КИНО». 14.40, 16.15, 22.00, 0.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.20** Ужасы «ОТМЕЛЬ». **19.00** Х/ф **«ТУРИСТ». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.45** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **2.05** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 12.50** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Мужчины. Строитель (Брест) – ХК Минск. **8.20** Футбол. Лига Наций УЕФА. Украина – Германия. **10.15** Теннис. Ролан Гаррос. Женщины. Финал. **12.20** Пит-стоп. **14.25** Вот это спорт! **14.40** Баскетбол. Единая лига ВТБ. УНИКС (Казань)- Цмокі-Мінск. **16.30** Спорт-центр. **18.55** Футбол. Лига Наций УЕФА. Литва – Беларусь. В перерыве Спорт-центр. **21.00** Футбол. Лига Наций УЕФА. Дневник игрового дня. **21.35** Футбол. Лига Наций УЕФА. Франция – Португалия. В перерыве Спорт-центр. **23.40** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.00** Маунтинбайк. Чемпионат мира. Мужчины. **1.00, 8.00, 11.00, 14.30, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **2.15, 9.15, 12.10, 15.40, 19.30** Теннис. «Ролан Гаррос». «Гейм, Шетт и Матс». **2.30, 7.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Пары. Финал. **4.00** Велоспорт. Amstel Gold Race. **5.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия» и Amstel Gold Race. Мультиплекс. **9.30** Автогонки. WTCR. Словакия. Квалификация. **10.00** Автогонки. WTCR. Словакия. Первая гонка. **12.25** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Пары. Финал. **15.55** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **21.00** Велоспорт. Гент – Вевельгем. **22.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **23.30** Маунтинбайк. Чемпионат мира. Женщины.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 16.45, 0.35** Испытание на прочность. **6.30, 13.50, 18.05, 1.50** Тест на «Драйве». **7.00, 8.40, 12.55, 16.25, 18.40, 0.20, 1.35, 3.50** Итоговые новости. **7.15** Советы юриста. **8.55** Тест в большом городе. **10.05** По дорогам Второй мировой. **10.40** Все включено. **11.00** Вторичка. **11.15, 19.25, 22.50** Тест с дядей Ваней. **12.05, 20.15, 23.30, 4.05** Супергрузовики. **13.15** Тебе водить! Тебе лечить! **14.20, 2.50** Сити-тестер. **14.50, 21.05, 4.50** Автомобильные музеи мира. **15.25** Байки про байки. **16.05** Хорошо забытое. **17.15** Металлоломщики. **18.55** Эконом-тест. **20.05** Наезд! **21.40, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.25** Авто: вторые руки. **3.20** Кругосветка по бездорожью.

### EXPLORE

**6.00, 9.10** Рыбалка со звездами. **6.35, 7.25, 8.15** Речные чудовища. **9.55, 10.25, 21.15, 21.40, 22.05, 22.30** Нефритовая лихорадка. **10.50** Лондонский супертуннель. **11.50** Поисковая команда в Австралии. **12.35, 13.25, 14.10, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.55, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **0.35** Тренировка по древним традициям. **1.25, 2.15, 3.10, 4.00** Могучие реки. **4.55** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.00, 8.25, 2.50, 3.35, 4.20** Музейные тайны. **6.50, 7.35, 9.10, 10.00, 12.25, 13.15, 0.20** Запретная история. **10.50, 11.35** Мифы и чудовища. **14.00, 14.50** Могилы викингов. **15.40, 16.30** Последний поход викингов. **17.25** Как климат изменил ход истории. **18.25, 22.45** Оружейники: искусство войны. **19.10** Боевые корабли. **20.05** Безумцы с «Батавии». **21.00** Операция «Золотая лихорадка». **21.55** Разгадка тайны пирамид. **23.35** Карты убийства. **1.10, 2.00** Загадки Египта. **5.05, 5.30** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.05, 6.55, 7.45, 8.40, 17.50, 18.40, 22.20, 23.10** Выживание в дикой природе. **9.30** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **10.35, 19.35** Нил: величайшая из рек. **11.35, 20.35** Бескрайняя Африка. **12.30, 13.20** Загадочная планета. **14.10, 21.30** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.00** Жилища животных: прирожденные инженеры. **16.05** Гениальные морские охотники. **17.00** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **0.00** Невероятные встречи с животными. **0.50** Хищные питомцы. **1.35, 5.00** Мутации погоды. **2.20** Анатомия крупнейших животных. **3.15, 3.40, 4.05** Уличный ветеринар. **4.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.35, 3.35, 4.20** Авто-SOS. **8.25** Машины: Разобрать и продать. **9.15, 10.10** Египет с высоты птичьего полета. **11.00** Затерянный храм инков. **11.50, 12.40, 13.30** Инстинкт выживания, Китай. **14.20, 14.45** Горячие границы: Латинская Америка. **15.10** Служба безопасности аэропорта: Перу. **17.40, 18.30** Расследования авиакатастроф. **19.20, 20.10** Сила племени. **21.00, 21.50, 22.40, 23.30** Путешествия с Гордоном Рамзи. **0.20, 0.50, 1.10** Фабрика еды. **1.35** Сделать за один день. **2.00, 2.45, 5.05** Осушить океан.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.05** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.35** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 18.55, 23.05, 3.10** Рыбалка в России. **7.25, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты охотника. **7.55, 11.50, 15.55, 20.00, 0.05, 4.10** Рыбалка 360. **8.25, 12.20, 0.35, 4.35** Егерский кордон. **8.55, 12.50, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.20, 17.30, 21.35, 1.35, 5.35** Мир рыболова. **11.20, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты рыболова. **16.25, 20.30** Давай зарубимся! **16.40, 20.45** Популярная охота. **21.00** На рыбалку с охотой. **2.55** Крылатые охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Варенье. **6.45, 10.55, 14.50, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.10, 15.05, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.35, 23.30, 3.55** Усадьба будущего. **7.55, 12.10, 16.10, 20.05, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.30, 16.25, 20.25, 0.20, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.50, 16.40, 20.40, 0.35, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 0.50** Семейный обед. **9.20, 3.40** Букварь дачника. **9.40, 17.30, 21.25, 1.25, 5.35** Сельские профессии. **13.35, 17.15** Огород круглый год. **17.00** Огород круглый год. **20.55, 5.05** Домик в Америке. **1.55** Особый вкус.

# Любоўная драма, забойства дзядзькі і ўнія з Польшчай

## Што расказвалі пра Крэва старажытныя летапісы

СМАРГОНЬ

**На старонках летапісаў Крэва згадваецца ў 16 стагоддзі. Хоць паселішча ля вытокаў рэчкі Крыўлянкі з'явілася раней. Сведкі гэтаму – старажытнае гарадзішча, якое захавалася да нашага часу, курганы, знойдзеныя непадалёк у 19 стагоддзі.**




Акт Крэўскай уніі, падпісаны ў 1385 годзе.

### Што адбывалася ў Крэве да таго, як мястэчка патрапіла ў летапіс?

Ёсць версія, што Крэва было сталіцай Нальшанскага княства. Нальшаны ў 13 стагоддзі славіліся як «землі літоўскія». Імі валодаў князь **Даўмонт**. У 1258 годзе на княства напалі мангола-татары пад праўдырствам хана **Бурундая** і войска валынскага князя **Васількі Раманавіча**.

А ў 1263 годзе тут разгулялася любоўная драма. Па адной з версій, князь Даўмонт забіў заснавальніка ВКЛ **Міндоўга** з-за жанчыны – княгіні **Нальшанскай**. Міндоўг адбіў жонку ў Даўмонта, і той яму адпомсціў.

Праз год Нальшаны заваяваў **Войшалк**, сын Міндоўга. Даўмонт збег у Пскоў, і там яго абралі на княжанне. А Нальшаны пасля гэтага ўвайшлі ў склад ВКЛ і сталі падпарадкоўвацца полацкаму князю **Гердзеню**. Гэта гісторыя лягла ў аснову шматлікіх кніг. У іх Крэва завуць сталіцай Нальшан. Ці сапраўды гэта было так, невядома. Некаторыя навукоўцы лічаць, што Нальшанскае княства знаходзілася не каля Крэва, а на тэрыторыі сучаснай Літвы і Латвіі.

**Яшчэ адно спрэчнае пытанне: кім былі першыя насельнікі Крэва – балтамі ці славянамі-крывічамі? І як з'явілася назва паселішча?**

У гісторыкаў дагэтуль няма адзінага меркавання. Адны лічаць, што Крэва пайшло ад слова «крывічы». Іншыя – ад імя літоўскага вярхоўнага паганскага жраца Крэва-Крэвейтэ.

### Сцэны замка бачылі Вітаўта ў сукенцы

У канцы 13 – пачатку 14 стагоддзя на нашых землях усё часцей сталі з'яўляцца крыжакі Тэўтонскага ордэна. Старыя драўляна-земляныя ўмацаванні ўжо не маглі стрымліваць націск аднаго з лепшых у Еўропе войскаў. Тады на заходняй мяжы ВКЛ пачалі ўзводзіць каменныя замкі. Быў сярод іх і Крэўскі. Лічыцца, што яго заклаў вялікі князь **Гедымін**. Працягнуў будаўніцтва ягоны сын **Альгерд**. І ў другой палове 16 стагоддзя замак стаў эпіцэнтрам важных гістарычных падзей.

У 1338 годзе Гедымін дзяліў спадчыну і перадаў Крэва Альгерду. У сувязі з гэтай падзеяй паселішча ўпершыню згадваецца ў летапісе. У 1345 годзе Альгерд заняў вялікакняжацкі трон у Вільні, і Крэва перайшло ў валадарства яго сына, **Ягайлы**. Альгерд абапіраўся на дапамогу свайго брата **Кейстута**. У дзяржаве ўсталявалася двоеўладдзе.

Пасля смерці Альгерда вялікім князем стаў Ягайла. Кейстут быў незадаволены палітыкай пляменніка і стаў прад'яўляць правы на трон. Ён з войскам захапіў Вільню. Там абвясціў сябе ўладаром дзяржавы. Ягайлу Кейстут абвінаваціў у сувязі з крыжакамі і саслаў у Крэва. Аднак той не скарыўся лёсу: заручыўся падтрымкай крыжакоў і заціснуў Кейстута ў Троках пад Вільняй. Дзядзька вымушаны быў пайсці на мірнае пагадненне.

Ягайла абяцаў пачаць перамовы, але ў выніку захапіў Кейстута і яго сына Вітаўта ў палон. Кейстута ён загадаў даставіць у Крэва і кінуць у замкавую вязніцу. Вітаўта пад вартай адправіў у Вільню. Так Ягайла зноў стаў паўнаўладным гаспадаром ВКЛ. У падзямеллі Крэўскага замка Кейстут правёў чатыры дні. На пятыя суткі зняволення да старога князя ўварваліся слугі Ягайлы. Яны задушылі яго шнурком.

Такі ж лёс, верагодна, чакаў і Вітаўта. Яго таксама прывезлі ў Крэва і пакінулі ў адным з замкавых пакояў.

**Аднак у Вітаўта атрымалася збегчы. Палоннага магла наведваць жонка Ганна. Аднойчы ўвечары яна прыйшла да яго са сваёй пакаёўкай. Вітаўт пераапрануўся ў сукенку служанкі і выйшаў.**

Варта не заўважыла падмены.

### Як Крэва стала славутым на ўсю Еўропу

Знакавай падзеяй для мястэчка стала Крэўская унія – саюз паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім, падпісаны 14 жніўня 1385 года. Паводле дакумента, вялікі князь Ягайла пабраўся шлюбам з польскай каралевай **Ядвігай** і стаў польскім каралём. Пры гэтым Ягайла абяцаў прыняць каталіцтва і ахрысціць па каталіцкім абрадзе літоўцаў-язычнікаў.

Гэта быў выгадны для абедзвюх дзяржаў саюз. Ён дазволіў аб'яднаць сілы для сумеснай барацьбы з крыжакамі. Вынікам Крэўскай уніі стала перамога ў Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе. Адначасова з гэтым унія стала прычынай шматлікіх спрэчак і канфліктаў. Ягайла выканаў умовы Крэўскай уніі. Ён заснаваў у ВКЛ сем каталіцкіх храмаў. Сярод іх і касцёл святога Яна Хрысціцеля ў Крэве.

### Хто разбурыў старажытны замак у Крэве

Крэўскі замак доўгі час заставаўся важным стратэгічным умацаваннем. Ён часта падвяргаўся нападам і разбурэнню. Першыя значныя раны яму нанеслі падчас бунта 1433 года. Яго падняў незадаволены палітыкай Ягайлы яго родны брат Свідрыгайла. «И приде да Креиву, и стояша два дни, взяша Креиво мурованны и сожже, а людеи шмат посекоша и в полон поведоша» – так апісана гэта падзея ў Супрасльскім летапісе.

На працягу 1503-1506 гадоў Крэўскі замак пакутаваў ад набегаў крымскіх татар. А ў жніўні 1519 года Крэва закранула руска-літоўская вайна. На шляху ў Вільню праз крэўскія землі прайшлі дружыны рускіх ваяводаў Шуйскага, Гарбатага і Курбскага. Пад Крэвам стаяла вялікая літоўская раць, але яна вымушаная была пакінуць мястэчка і адысці ў непраходныя месцы за Лоск. Заваёўнікі тады спустошылі і разрабавалі замак. Хоць нямецкі дыпламат **Сігізмунд Герберштэйн** засведчыў, што ўжо за год да гэтых падзей у замку ніхто не жыў. У яго «Нататках пра Масковію» так і напісана: «Crevua oppidum cum castro deserto» – «Горад Крэва з апусцелым замкам». Магчыма, замак у той час выкарыстоўвалі толькі для ваенных патрэб як баявую крэпасць.

**Паводле kreva.travel.**

---

**● КАЛЯНДАР**

**2 КАСТРЫЧНІКА**

**1915.** У ходзе Першай сусветнай вайны германская армія заняла Вільню.

**1965.** Нарадзіўся **Зміцер Сідаровіч**, беларускі музыкант, бард, дудар, фалькларыст (пам. у 2014).

**3 КАСТРЫЧНІКА**

**1906.** Міжнародным сігналам бедства зацверджаны сігнал SOS. Раней дзейнічаў сігнал CQD.

**4 КАСТРЫЧНІКА**

**1957.** У СССР праведзены запуск першага штучнага спадарожніка Зямлі.

**5 КАСТРЫЧНІКА**

**1967.** Нарадзіўся **Сяргей Харэўскі**, беларускі мастак, літаратар, гісторык мастацтва, культуролаг, мастацтвазнаўца.

**6 КАСТРЫЧНІКА**

**1876.** Нарадзіўся **Ян Булгак**, фотамастак, краязнаўца і этнограф. «Бацька польскай фатаграфіі». Яго творчасць – частка супольнай культурнай спадчыны Беларусі, Літвы і Польшчы. Пераважная частка яго творчасці звязаная з Вільняй і Віленшчынай. У 1915 годзе выйшаў альбом у 6 тамах «Літва ў здымках Яна Булгака». Сярод больш чым 270 здымкаў ёсць Крэва, Вілейка.



**1948.** 176 тысяч чалавек загінулі ў выніку землятрусу ў Ашхабадзе ў Туркменістане. Адзін з самых разбуральных землятрусаў у гісторыі чалавецтва.

**7 КАСТРЫЧНІКА**

**1765.** Нарадзіўся **Міхал Клеафас Агінскі**, вялікалітоўскі магнат і кампазітар. Значную частку жыцця пражыў у Залессі паміж Маладзечнам і Смаргонню. Уладальнік палацавага ансамбля ў Ганцы, цяперашні Вілейскі раён.



**8 КАСТРЫЧНІКА**

**1909.** У Нясвіжы нарадзіўся **Пётр Ярашэвіч**, у 1970-1980 гадах – прэм'ер-міністр Польшчы.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

Жанчына з плакатам на акцыі 27 верасня.

# Пратэстоўцы выходзяць на вуліцы Маладзечна, але іх разганяюць міліцыянеры

**У Маладзечне працягваюцца пратэстныя акцыі. Цягам апошняга тыдня ў горадзе двойчы збіраліся людзі на дэманстрацыі, аднак амаль адразу іх разганялі супрацоўнікі міліцыі.**

### Прычына – таемная інаўгурацыя

У сераду, 23 верасня, маладзечанцы выйшлі на Цэнтральную плошчу, каб выказаць незадаволенасць з прычыны таемнай інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі.

На плошчы сабралася некалькі соцень чалавек – шмат людзей сядзела на лаўках на алеі. Некаторыя былі абгорнутыя ў бел-чырвона-белыя сцягі.

Ад 18 гадзін дзве групы міліцыянераў па чатыры супрацоўнікі ў кожнай хадзілі па плошчы. У мегафоны яны казалі, што людзі ўдзельнічаюць у несанкцыяніраваным мітынгу, большасць людзей сядзела на лаўках.

Міліцыянеры здымалі людзей на відэакамеры. Некаторыя жанчыны падыходзілі да супрацоўнікаў, каб паразмаўляць. Тыя ніяк не рэагавалі на спробы пагутарыць з імі.

На адзінкавыя воклічы «Жыве Беларусь» людзі адгукаліся тым жа воклічам.

У цэнтры плошчы жанчына на ровары чытала малітву за Айчыну. Яна прапанавала далучыцца да яе ўсім, хто хоча. Каля яе сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Да іх падышлі дзве групы міліцыянераў. Яны перарывалі малітву папярэджаннямі аб несанкцыяніраваным мерапрыемстве.

Да людзей у цэнтры плошчы далучаліся дзяўчаты, якія ішлі ў счэпцы. Бурныя эмоцыі ў людзей на плошчы выклікала фура ў бел-чырвона-белай расфарбоўцы.

У нейкі момант людзі вырашылі акружыць адну з груп міліцыянераў своеасаблівым карагодам. Міліцыянер **Андрэй Жылевіч** схапіў за руку жанчыну, спрабаваў вырваць яе з гэтага карагода, каб вызваліць сабе дарогу.

Пасля людзі сталі ў сцэпку і прайшліся да помніка Леніну. На плошчы запалілі святло, а людзі прайшлі невялічкім шэсцем па Брадвеі. Міліцыянеры пайшлі за імі. Людзі вярнуліся назад на плошчу, пайшлі ў бок да парку. Там асноўная частка дэманстрантаў разышлася, а частка засталася ў парку. Міліцыянеры ў хуткім часе з'ехалі.

Вядома, што пасля акцыі 23 верасня затрымалі двух чалавек – **Яраслава Стасілевіча** (7 сутак арышту) і **Дзяніса Еніна** (10 сутак арышту). 24 верасня з дома забралі яшчэ аднаго пратэстоўца **Данііла Сазановіча**, ён атрымаў 25 базавых велічынь.

### Нядзельны марш не адбыўся

Традыцыйна ў Маладзечне ў нядзелю пратэстоўцы выходзяць на марш. У мінулую нядзелю людзі не выйшлі, але змаглі сабрацца невялікай акцыяй на плошчы.

Нядзельныя акцыі ў Маладзечне пачынаюцца з шэсця па Вялікім Гасцінцы. 27 верасня праспект упершыню з пачатку пратэстаў патрулявалі міліцыянеры – ад Лядовага палаца да Цэнтральнай плошчы.

На плошчы, па словах відавочцаў, доўгі час стаяў зялёны аўтобус. У ім былі завешаныя шэрай тканінай вокны. Было бачна, што ў ім знаходзяцца людзі ў балаклавах, у самім аўтобусе ляжаць шчыты.

Па плошчы хадзілі супрацоўнікі маладзечанскай міліцыі. Іх было не менш за 11 чалавек. Людзі сядзелі групамі ў алеі, частка – каля помніка Леніну.

Каля міліцэйскіх машын знаходзіўся і начальнік Маладзечанскага РАУС **Вадзім Прыгара**. За некалькі дзён да нядзельнага марша, у пятніцу, стала вядома, што чалавек з імем Вадзім Сяргеевіч Прыгара ўнесены ў санкцыйныя спісы Латвіі, Літвы, Эстоніі і Польшчы. Краіны Еўрасаюза фарміруюць санкцыйныя спісы беларускіх чыноўнікаў і сілавікоў, якія, на іх думку, дапамагалі ў фальсіфікацыі выбараў і гвалтоўна разганялі мірныя пратэсты.

Міліцыянеры настойліва рэкамендавалі людзям, што былі каля помніка Леніну, разысціся па дамах. Таксама адзін сілавік з мегафонам падышоў да журналістаў і сказаў, што ім таксама трэба ісці дадому. Гэты працэс два супрацоўнікі здымалі на відэакамеру.

Каля міліцыянераў на плошчы ездзіў сіні «Фольксваген» без нумароў. У ім былі людзі ў балаклавах.

Ад помніка Леніну людзі пайшлі ў бок парку па алеі. З імі ішлі і міліцыянеры. Супрацоўнікі звярталіся да людзей, што сядзелі на лаўках на алеі, што яны ўдзельнічаюць у несанкцыяніраванай акцыі.

Каля галоўнага ўвахода ў парк жанчына дастала плакат, разам з ёй стаялі таксама іншыя жанчыны. Міліцыянеры падышлі да іх і казалі пра незаконныя дзеянні. Хутка да гэтай жанчыны падышлі яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек. Усе яны пастаялі 10-15 хвілін каля ўвахода, потым пайшлі ў парк.

Некалькі дзясяткаў пратэстоўцаў пайшлі да помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі. У гэты момант у парку ўпала дрэва, хтосьці з натоўпу сказаў, што так упадзе дыктатура.

У хуткім часе пратэстоўцы разышліся. На ўваходзе ў парк і на Цэнтральнай плошчы заставаліся міліцыянеры, якія патрулявалі тэрыторыю. На тэрыторыі Маладзечанскага РАУС знаходзіліся супрацоўнікі АМАПа.



Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# У Маладзечне за мітынг на сем сутак асудзілі шматдзетнага бацьку

Яраслаў Стасілевіч і яго жонка Анастасія гадуюць трох непаўнагадовых дзяцей і чакаюць папаўнення.

**У судзе Маладзечанскага раёна 24 верасня прайшло пасяджэнне па справе Яраслава Стасілевіча, якога затрымалі 23 верасня пасля пратэстнай акцыі.**

### «Лічу, што бел-чырвона-белы сцяг – наш гонар»

Яраслаў Стасілевіч патлумачыў на пасяджэнні, якое вяла суддзя **Вікторыя Паляшчук**, што прыехаў на плошчу на аўтамабілі разам з жонкай і трыма малымі дзецьмі. Яны прайшліся па Брадвеі, былі каля фантана «Залаты трыліснік».

Стасілевіч сказаў, што бачыў натоўп з каля 50 чалавек. Яны ішлі з боку вуліцы Прытыцкага. За людзьмі ішла міліцыя. Міліцыянер у мегафон казаў, што дзеянні людзей незаконныя, прасілі грамадзян разысціся. У гэты момант сям'я Стасілевічаў ішла каля фантана.

Мужчына сказаў, што ў гэты момант нейкі супрацоўнік зняў яго на відэакамеру, а ён памахаў рукой.

Потым Стасілевіч з сям'ёй пайшлі да свайго аўтамабіля. Да аўто падышлі міліцыянеры, якія папрасілі мужчыну праехаць разам з імі, каб высветліць асобу Стасілевіча. Яраслаў паказаў пасведчанне кіроўцы, сказаў, што можна такім чынам высветліць асобу. Аднак маёр **Яраслаў Туровіч** сказаў, што калі Стасілевіч адмовіцца выканаць загад міліцыянера, то ў дачыненні да яго будзе прыменена фізічная сіла.

Стасілевіч сказаў, што быў абгорнуты ў бел-чырвона-белы сцяг.

– Я лічу, што бел-чырвона-белы сцяг – гэта наш гонар.

### «Усё залежыць ад лозунгаў»

Першым сведкам на судзе выступіў міліцыянер Маладзечанскага РАУС **Ігар Рыснік**. Міліцыянеры ў той дзень займаліся аховай грамадскага парадку. Па словах Рысніка, у людзей была бел-чырвона-белая сімволіка. Людзі спачатку сядзелі на лаўках, а пасля выйшлі на Цэнтральную плошчу. Яны скандзіравалі розныя лозунгі, міліцыянер памятае толькі «Жыве Беларусь».

– Людзі ў гадзін сем вечара пайшлі ў бок кінатэатра «Радзіма», таксама крычалі гэтыя лозунгі. Каля кінатэатра пабылі не болей за пяць хвілін і накіраваліся ў бок парку.

Рыснік разам з міліцыянерамі пайшоў да фантана, а частка іншых супрацоўнікаў пайшла ў бок парку. Там ён заўважыў Стасілевіча.

> **– Бліжэй да 20 гадзін ішлі ад плошчы да парку, там пабачыў Стасілевіча. На ім быў бел-чырвона-белы сцяг. Наперадзе ішлі яго дзеці і жонка.**

Потым міліцыянер Рыснік з калегамі пайшоў да службовай машыны. Яны аб'ехалі парк, затрымалі мужчыну, які таксама ўдзельнічаў у акцыі. Потым прыехалі на плошчу, спыніліся, і Рыснік у другі раз убачыў Стасілевіча.

> **– Ён знаходзіўся каля свайго аўтамабіля. Дапамагаў жонцы вазок паставіць у машыну.**

Адвакат спытаўся, ці ёсць розніца, з якім сцягам – бел-чырвона-белым ці дзяржаўным – будуць хадзіць людзі, і ці будзе гэта кваліфікавацца як парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Рыснік адказаў, што будзе залежаць ад лозунгаў.

### Сведка з міліцы бачыў Стасілевіча толькі адзін раз

***Андрэй Жалевіч*** – другі сведка па справе Стасілевіча. Жалевіч працуе міліцыянерам у Маладзечанскім РАУС.

23 верасня Жалевіч разам з іншымі міліцыянерамі знаходзіўся на службе па ахове грамадскага парадку. Каля 17:30 паступіла інфармацыя, што людзі збіраюцца на Цэнтральнай плошчы на несанкцыянiраваную акцыю.

Па словах сведкі, людзі хадзілі па алеі і плошчы, іх папярэджвалі аб несанкцыяніраваным мерапрыемстве і наступствах удзелу ў ім.

– Прыехала нейкая жанчына на роварах. Стаяла, крычала і плявалася. Потым людзі пайшлі шэсцем, вярнуліся на плошчу, прайшліся па скверы і разышліся.

> **Жалевіч пайшоў за калонай, разам з іншымі міліцыянерамі яны стаялі каля галоўнага ўвахода ў парк. Пасля паехалі ў Маладзечанскі РАУС.**

Жалевіч сказаў, што каля фантана бачыў Стасілевіча разам з жонкай і дзецьмі, у яго быў на плячах бел-чырвона-белы сцяг. Ён не памятае, у колькі бачыў Стасілевіча. Жалевіч не бачыў Стасілевіча ні на плошчы, ні на Брадвеі. Таксама не чуў ад мужчыны лозунгаў.

Адвакат запытаўся ў Жалевіча, ці з'яўляецца хаджэнне з бел-чырвона-белым сцягам парушэннем заканадаўства. Той адказаў, што не з'яўляецца.

### Жонка Стасілевіча: міліцыянеры не прадстаўляліся

Адвакат хадайнічаў аб выкліку сведкі – жонкі Стасілевіча **Анастасіі**. Анастасія цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, яна цяжарная. У іх разам са Стасілевічам трое малых дзяцей.

23 верасня Яраслаў забраў Анастасію, якая вярталася з вучобы ў Мінску. Яны прыехалі ў Маладзечна каля пяці гадзін. Пасля сямі гадзін разам з мужам і дзецьмі паехалі гуляць. Гулялі каля фантана і па Брадвеі. Потым вярнуліся да аўто. Міліцыянеры падышлі, калі муж грузіў вазок у машыну, а дзеці ўжо сядзелі ў машыне.

– Міліцыянеры не прадстаўляліся, гэтага не чула. Пазнала іх па форме. Яны падышлі да мужа, калі той грузіў вазок у багажнік.

Анастасія сказала міліцыянерам, што цяжарная і з ёй разам малыя дзеці. Маўляў, як супрацоўнікі могуць зараз пакінуць яе без мужа, як яна даедзе дадому. Анастасія адзначыла, што міліцыянеры пагражалі прымяніць сілу, калі Яраслаў адмовіцца ісці з імі.

У судзе прадставілі аператыўны відэазапіс міліцыянераў Маладзечанскага РАУС. На ім быў Яраслаў Стасілевіч. Ён ішоў, абгорнуты ў бел-чырвона-белы сцяг, паказаў на камеру знак «вікторы». Стасілевіч пазнаў сябе на відэа.

> **Яраслаў Стасілевіч не прызнаў віну.**

Суддзя Паляшчук пастанавіла, што Яраслаў Стасілевіч парушыў артыкул 23.34 КоАП. Яна прызначыла яму адміністрацыйнае пакаранне ў выглядзе арышту на сем сутак.



Тэкст і фота:
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Смаргонцы падтрымалі прадпрымальніка, у якога міліцыя канфіскавала аргтэхніку

**Смаргонец Рамуальд Улан – прыватны прадпрымальнік, які аказвае паслугі друку. Таксама ён – былы выдавец і заснавальнік «Новай газеты Смаргоні» (1996-2005).**

У рамках крымінальнай справы па артыкуле 188 КК (паклёп) 26 верасня ў яго дома і ў офісе прайшліператрусы, канфіскавалі неабходную для працы аргтэхніку, тэлефоны. Аднак неабыякавыя смаргонцы дапамаглі свайму прадпрымальніку.

– У горадзе з'явіліся ўлёткі. У іх – інфармацыя пра некалькіх смаргонскіх міліцыянераў і аднаго чыноўніка. Я ўбачыў улёткі ў некалькіх месцах горада, сфатаграфаваў іх і размясціў у гарадскім пабліку «УКантакце».

> **Цяпер мяне абвінавачваюць у апублікаванні непраўдзівых звестак, – расказвае Улан.**



Прадпрымальнік са Смаргоні Рамуальд Улан.

Фота facebook.com.

А яшчэ падазраюць, што нібыта на абсталяванні Улана друкавалі тыя самыя ўлёткі.

– Я адразу заявіў следчаму, што ўлёткі друкаваліся не на маім абсталяванні, на паліграфе гэта можна пацвердзіць. Мяне не паслухалі. 26 верасня канфіскавалі ўсю тэхніку на працы, у тым ліку каляровыя прынтары, сістэмныя блокі. І яшчэ дома – тэлефоны, планшэт, прынтар, – працягвае мужчына.

У роспачы, пазбаўлены тэхнікі, на якой ён зарабляе грошы, прадпрымальнік вечарам у суботу звярнуўся да смаргонцаў, каб дапамаглі з аргтэхнікай, далі пакарыстацца на некаторы час.

– Быў вельмі прыемна здзіўлены, што людзі адгукнуліся на маю просьбу. Да панядзелка ўжо было 90% тэхнікі для працы. Смаргонцы прывозілі, прыносілі прынтары, сістэмныя блокі. Два чалавекі нават прапаноўвалі пералічыць грошы на картку. Для прадпрымальніка, які прывык грошы зарабляць, гэта было нязвыкла. Я, вядома, адмовіўся.

> **Вельмі ўдзячны сваім смаргонцам за такую падтрымку.**

Суразмоўца дадае, што многія кліенты спачуваюць яму. Некаторыя бачылі, як у суботу ў офісе адбываўся ператрус і канфіскацыя.

Да сёння людзі прыносяць у офіс пачкі офіснай паперы, нешта замаўляюць, купляюць, каб падтрымаць Рамуальда Улана.

Па яго словах, дзякуючы дапамозе смаргонцаў, у першы дзень працы пасля вобшуку, даход быў амаль такі, як і ў астатнія дні. Ну, можа, крыху меншы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На выхадных затрымалі дзвюх маладзечанак за стужкі

**У ноч з 26 на 27 верасня ў Маладзечне затрымалі дзвюх жанчын.**

Адна з іх **Наталля Еніна** – былая жонка **Дзяніса Еніна**, якога затрымалі пасля пратэстнай акцыі 23 верасня. Дзяніса прысудзілі да 10 сутак арышту. Днём у нядзелю ў доме Наталлі праводзілі вобшук, паведамілі сваякі жанчыны. У Наталлі ёсць дачка-падлетак і сямігадовае дзіця, яго бацька – Дзяніс.

Другая затрыманая – **Тацццяна Патокіна**. Жанчыны правялі ноч у міліцыі, у нядзелю іх адпусцілі. У Наталлі двое дзяцей, 7 і 14 год, у Таццяны – 14-гадовая дачка. Паведаміць сваякам пра сваё затрыманне жанчыны не атрымалі магчымасці.

Вось як пра гэта здарэнне паведамляе прэс-служба УУС Мінаблвыканкама:

«Уначы 27 верасня супрацоўнікі міліцыі заўважылі на вуліцы Будаўнікоў у Маладзечне чацвярых чалавек, якія закідвалі на дрэвы стужачкі белага і чырвонага колераў, прывязаныя да металічных гаек. Двое мужчын паспелі схавацца, дзвюх жанчын затрымалі».

УУС Мінаблвыканкама дадае, што за дзецьмі жанчын будуць сачыць сацыяльныя службы.

> **У дачыненні да абедзвюх жанчын складзеныя пратаколы за парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў.**

На адну з іх – яшчэ і за з'яўленне ў грамадскім месцы ў нецвярозым стане.

Таццяна Патокіна расказвае, што падчас затрымання ў пакеце жанчыны знайшлі бел-чырвона-белыя стужкі, а непадалёк былі дрэвы, упрыгожаныя падобнымі стужкамі.

– Пры затрыманні траўмавала калена, – расказвае Таццяна. – Прасіла пра медыцынскую дапамогу, каб адпусцілі да дактароў. Склалі пратакол, правялі дома вобшук. Усё перарылі, вытраслі на падлогу. Шукалі сцягі, стужкі і швейную машынку! Нічога не знайшлі.

> **І толькі каля гадзіны дня ў нядзелю, калі ад болю стала кепска і ўпаў ціск, выклікалі «хуткую дапамогу».**

Пры гэтым з мяне ледзь не злачынцу зрабілі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Гуляў у футбол, з жонкай пазнаёміўся ў школе

## Дзевяць фактаў пра першага міністра замежных спраў Беларусі

**25 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі зладзілі імпрэзу, прысвечаную 70-годдзю нашага земляка, палітыка, навукоўца, першага міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Пётр Краўчанка падчас імпрэзы ля свайго партрэта работы мастачкі Алесі Скарабагатай.

Сярод гасцей Пятра Кузьміча былі пісьменнікі і журналісты, мастакі і спевакі, палітыкі і прадпрымальнікі, дыпламаты і навукоўцы. Юбіляр у вышыванцы распавёў прысутным пра свае карані, выкладчыцкую, навуковую і палітычную дзейнасць, прыгадаў сустрэчы з вядомымі палітыкамі еўрапейскіх краін.

Падчас імпрэзы прэзентавалася кніга **Аляксандра Медзяльцова** «Пётр Краўчанка. Чалавек, палітык, дыпламат». Кніга прысвечаная жыццю і шматграннай дзейнасці вядомага беларускага палітыка, дыпламата і навукоўца Пятра Краўчанкі і ахоплівае перыяд ад яго нараджэння да распаду СССР у снежні 1991 года. Над кнігай гісторык і пісьменнік Аляксандр Медзяльцоў працаваў амаль дзесяць год, выкарыстоўваючы практычна невядомыя архіўныя матэрыялы з асабістага архіва першага міністра замежных спраў Беларусі, які ўнёс значны ўклад у стварэнне падмурка сучаснай нацыянальнай дзяржаўнасці і адраджэнне беларускай дыпламатыі. Прадмову да кнігі пісаў шматразовы чэмпіён свету па шахматах **Анатоль Карпаў**.

Мы падрыхтавалі з прэзентацыі некалькі цікавых і, магчыма, невядомых вам раней фактаў з жыцця юбіляра-земляка.

**1. Прадзед Краўчанкі, Аляксандр Шыкавец, быў першым адукаваным чалавекам на Мядзельшчыне.** Ён скончыў рамесніцкае вучылішча. На той час гэта была сур'ёзная адукацыя.

**2. Пётр Кузьміч атрымаў сваё імя ў гонар брата бабулі – Пятра Шыкаўца – аднаго з першых лётчыкаў Расіі.** З невялічкай вёскі Русакі, што на Мядзельшчыне, Шыкавец паехаў у Санкт-Пецярбург, атрымаў там вышэйшую адукацыю. Ажаніўся з артысткай Марыінскага тэатра і прывёз яе ў Русакі. Лёс Пятра Шыкаўца склаўся трагічна. У 1922 годзе ён перайшоў польска-савецкую мяжу. У 1937 годзе ў Савецкім Саюзе яго зрабілі польскім шпіёнам і расстралялі ў 1937. Яго ўдава, былая артыстка Марыінскага тэатра, жыла ў Маладзечне.

**3. Бабуля Краўчанкі Аляксандра Шыкавец і дзядуля Сяргей Мількота бралі шлюб у 16 год.**

– Дзядуля прыехаў да бабулі ў Русакі сватацца з вёскі Літвінкі, што побач з Курановам, і сказаў: «Саша, выходзь за мяне. У нас весела – з акна цягнік відаць. А ты жывеш у пушчы».

**4. Ведае свае карані ад 1565 года.**

Па словах юбіляра, род Мількотаў – вельмі старажытны. Хата гэтага роду на адным і тым жа падмурку ў Літвінках стаяла амаль 500 гадоў. Паводле архіваў, першы вядомы продак **Зміцер Мікоціч** у 1565 годзе меў 30 валок зямлі.

**5. Пасля вайны бацька служыў у КДБ у Вілейцы.**

Кузьма Краўчанка ў 11 год застаўся сіратой. Гадаваўся сярод атары авечак. У 18 пайшоў служыць у Чырвоную армію, стаў афіцэрам.

**6. Сям'я Кузьмы і Галіны Краўчанкаў была добра знаёмая з Героем Савецкага Саюза з Вілейшчыны Аляксандрам Азончыкам.**

Па словах Пятра Кузьміча, яго маці нават пісала пад дыктоўку Азончыка пісьмо Сталіну, у якім ён заступаўся за партызана свайго атраду.

**7. Будучы палітык у пачатку 1970-х гуляў у футбол за маладзечанскую каманду «Селена».**

Ад ліпеня да верасня 1972 года ў дакументах Пятра Краўчанкі стаяў штамп «сталяр Маладзечанскай мэблевай фабрыкі». Паколькі прафесійнага футбола ў СССР не было, спартсмены, гуляючы ў футбол, былі токарамі, слесарамі, сталярамі.

**8. З жонкай Галінай пазнаёміўся падчас вучобы ў Насілаўскай школе.** Першы раз убачыў адно аднаго прыкладна ў сёмым-восьмым класе. Пасля школы сустрэліся. Штогод на 8 Сакавіка шукаў для яе самыя прыгожыя ружы. Праз два гады сям'я адзначыць залатое вяселле.

**9. Збірае кнігі 48 год.** Першую набыў 17 верасня 1972 года.




Фота з асабістага архіва Пятра КРАЎЧАНКІ.

Унікальнае выданне Аляксандра Медзяльцова «Пётр Краўчанка. Чалавек, палітык, дыпламат» можна будзе набыць у кнігарнях «Белкніга» ва ўсіх гарадах рэгіёна.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Каманда доследнага лясгаса стала лепшай на абласным конкурсе

ВІЛЕЙКА

25 верасня на базе Стаўбцоўскага лясгаса правялі абласны конкурс «Лесаруб-2020». Вілейская каманда заняла ў ім першае месца. Ёсць і прызавыя месцы ў асабовых конкурсах, расказала намеснік дырэктара Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяна Анішчык**.

– Упершыню ўдзельнікаў раздзялілі на падгрупы – «А» і «Б». У падгрупе «А» ўдзельнічалі такія прафесіяналы, як наш **Валеры Дуровіч** – чэмпіён свету сярод лесарубаў у 2016 годзе. Астатнія спаборнічалі ў падгрупе «Б». Была і каманда юніёраў, – распавяла **Таццяна Анішчык** карэспандэнту.

Каманду Вілейскага лясгаса прадстаўлялі **Валеры Дуровіч**, **Міхаіл Забаронак** і **Сяргей Гайчук**. Вілейская каманда стала самай лепшай – заняла першае месца. У асабовых спаборніцтвах Валеры Дуровіч заняў другое месца ў падгрупе «А», Сяргей Гайчук – другое ў падгрупе «юніёры», Міхаіл Забаронак – другое ў падгрупе «В».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Школьнікі перамаглі ў алімпіядзе, прысвечанай стагоддзю БНТУ

ВІЛЕЙКА

У Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце 22 верасня правялі ўрачыстае адкрыццё заключнага этапу чацвертай адкрытай алімпіяды навучэнцаў «Крок да інавацый», прысвечанай 100-годдзю БНТУ.

Як паведамляюць ва Упраўленні адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама, у БНТУ сабралася каля 80 навучэнцаў з усіх абласцей Беларусі і горада Мінска. Сярод іх былі і вучні з сярэдняй школы №3 Вілейкі.

Па выніках алімпіяды двое вучняў гэтай школы ўзялі дыпломы: **Аляксей Зубель** – першай ступені, **Аляксандр Мароз** – трэцяй.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пачынаецца загоннае паляванне на капытных жывёл і зайцоў

Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што ад 1 кастрычніка пачынаецца адно з самых масавых і папулярных у Беларусі паляванняў – загоннае паляванне на капытных жывёл, якое працягнецца да 31 снежня. Ад 3 кастрычніка адкрываецца асенне-зімовы сезон палявання на зайцарусака і зайца-беляка.

Паляваць на зайца дазваляецца толькі ў светлы час сутак ружэйным спосабам з падыходу з паляўнічым гончым сабакам, у якога ёсць палявы дыплом па зайцу і (або) лісіцы. Пры гэтым з адным сабакам могуць знаходзіцца да трох паляўнічых.

Выкарыстоўваць дазваляецца толькі гладкаствольную паляўнічую зброю з патронамі, забяспечанымі шротам.

Дапускаецца безружэйны спосаб палявання з паляўнічымі сабакамі-хортамі і (або) ловчымі птушкамі.

Калі вам стала вядома пра факты парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету просіць паведамляць пра гэта на «тэлефон даверу» **+375 (17) 390-00-00** альбо на нумар **+375 (17) 975-07-40**. Інфармацыю правераць.

**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Украіна адкрыла межы

Ва Украіне спыніла дзейнасць забарона на ўезд замежнікаў на тэрыторыю краіны. Ад 28 верасня замежнікі зноў могуць перасячы украінскую мяжу, заявіў **Андрэй Дземчанка**, прадстаўнік Дзяржаўнай памежнай службы краіны.

– Пастанова, у якой прапісаныя абмежаванні ўезду замежнікаў, працягвае дзейнічаць. Гэта пастанова ўрада №641. У той жа час там была выразна прапісаная забарона ўезду замежнікаў на тэрыторыю нашай краіны ад 28 жніўня да 00:00 28 верасня. Фактычна той ноччу гэта норма аб забароне ўезду замежнікам у нашу краіну спыніла сваё дзеянне. З гэтага часу ўезд у нашу краіну не забаронены, – сказаў Дземчанка агенцтву.

Па словах Дземчанкі, ад сёння на мяжы не будуць патрабаваць страхавога поліса і таксама не будуць прасіць замежнікаў выконваць каранцін.

**Паводле interfax.com.ua.**


Фота з архіва Уладзіслава АЎСЕЕВІЧА.

Улад Аўсіевіч на BMX.

# «Неаднойчы збіваў калені, але гэта мяне не спыніла»

**За свае 19 гадоў маладзечанец Уладзіслаў Аўсіевіч прафесійна займаўся плаваннем, захапляўся баскетболам, але аддаў перавагу роварам BMX. Гісторыя таго, як хлопец крок за крокам рухаўся да сваёй мары, вартая павагі.**

– Аднойчы я праязджаў каля гандлёвага цэнтра «Модуль» і заўважыў падлетка, які катаўся на дзіўным невялікім ровары і вытвараў розныя трукі. Зацікавіўшыся, даведаўся, што гэта адзін з экстрэмальных відаў спорту пад назвай BMX, – успамінае юнак.

Нягледзячы на тое, што добры байк абыходзіцца ў круглую суму, Улад загарэўся гэтай ідэяй. Нават калі бацькі сказалі, што ён яшчэ не дарос, хлопец не засмуціўся, а толькі больш старанна стаў вучыцца, дапамагаць з дамашнімі справамі ў надзеі, што ў наступным годзе яму падораць запаветны ровар.

Аднойчы яго сябар Ягор сабраўся купляць новы камп'ютар, але яго бацькі былі супраць. Тады Улад прапанаваў прыяцелю купіць замест камп'ютара BMX. Бо гэта больш карысна, чым сядзець цэлымі днямі дома.

– Ужо праз тыдзень мы з сябрам садзімся на электрычку, едзем у сталіцу і купляем жалезнага каня, – распавядае наш герой.

Неўзабаве Ягор пазнаёміў Улада з хлопцамі, якія катаюцца на BMX на Цэнтральнай плошчы. Новыя знаёмыя давалі пакатацца на сваіх байках і навучылі першым трукам: ездзіць на заднім, а потым на пярэднім коле, катацца без рук, заскокваць заднім колам на грань бардзюра, рабіць абарот рамы вакол руля.

– Памятаю да гэтага часу, як радаваўся, калі ў мяне атрымаўся першы трук, а потым ужо другі, трэці, чацверты, – успамінае Улад. – Я не раз падаў, неаднойчы збіваў калені, але гэта мяне не спыніла.

І вось надышоў дзень Х – яго дзень нараджэння. Настрой быў на пазітыве, бацькі павіншавалі са святам, уся сям'я сабралася за сталом. Але абяцанага падарунка юнак так і не дачакаўся. Яшчэ два тыдні ён жыў у чаканні, што хутка яго мара збудзецца. Але тут умяшаўся выпадак: бацькі наткнуліся на відэа, дзе прафесійны спартсмен атрымлівае моцныя траўмы пасля няўдалага падзення з вышыні.

– Прысуд быў фатальны – мне не купяць ровар. Ад гэтай навіны я быў вельмі засмучаны і не выходзіў з пакоя да канца дня, – успамінае Улад.

Лета прайшло. Паступленне ў каледж, вучоба. Але думкі аб BMX не пакідалі нават на парах. Хлопец пачаў адкладаць кішэнныя грошы, стыпендыю і ўжо да канца сакавіка назапасіў неабходную суму. Заставалася адна праблема – як купіць ровар, каб бацькі не даведаліся пра гэта. І калі яны з'ехалі на дачу, Улад адправіўся ў краму.

– Эмоцыі тады мяне перапаўнялі. Пах новай гумы ўперамешку з водарам газіроўкі закружыў галаву, – дзеліцца ўражаннямі юнак. – Момант, калі выкацілі мой ровар са склада, я запомніў надоўга. Сказаць, што я быў шчаслівы – нічога не сказаць. Такіх пачуццяў яшчэ ніколі не адчуваў.

Каля месяца Уладу ўдавалася хаваць ад бацькоў пакупку, пакуль аднойчы яны не сутыкнуліся ў парку. Нямая сцэна... Мама і тата ў шоку! Але праз некаторы час яны пачалі падтрымліваць сына, разумеючы, што ён займаецца любімай справай, праводзіць час на свежым паветры, а не за гаджэтамі. Але была адна ўмова: рамонт за ўласны кошт. За два гады хлопец уклаў у свой байк яшчэ адзін яго кошт.

На шчасце, бацька падтрымлівае і новае захапленне сына дрыфтам. Вядома, перарабіць старыя «Жыгулі» ў круты дрыфт-кар складана, але Улад Аўсіевіч упарта ідзе маленькімі крокамі да сваёй новай мары.

**Таццяна ПОСАХ,**
**навучэнка гуртка «Школа журналістыкі».**

# Алену Леўчанку асудзілі за ўдзел у несанкцыяніраванай акцыі

**30 верасня адну з самых моцных баскетбалістак Беларусі асудзілі за ўдзел у несанкцыяніраванай акцыі на 15 сутак.**

Леўчанку затрымалі ў нацыянальным аэрапорце. Яна збіралася ехаць на рэабілітацыю – яшчэ ў 2019 годзе атрымала сур'ёзную траўму калена. Супрацоўнікі міліцыі даставілі баскетбалістку ў Ленінскі РУУС Мінска. Аб гэтым Леўчанка паспела паведаміць свайму адвакату. У той жа дзень яе даставілі ў ізалятар часовага ўтрымання на Акрэсціна. Да Леўчанкі не дапускалі адваката праз складаную эпідэміялагічную абстаноўку.

**Алену Леўчанку судзілі па двум артыкулам КоАП за ўдзел у несанкцыяніраваным мітынгу і супраціўленне супрацоўнікам міліцыі.**

Раней Алена актыўна выказвалася супраць гвалту, за правядзенне паўторных выбараў. Леўчанка ўваходзіць у свабоднае аб'яднанне спартсменаў Беларусі.

Яна шматразовая баскетбалістка года Беларусі, удзельніца дзвюх Алімпіяд і бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы.

**Настасся УТКІНА.**



Фота yandex.by.

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Вострая вірусная хвароба, галоўнымі рысамі якой з'яўляюцца запаленне дыхальных шляхоў і гарачка.
3. Японцы распрацавалі будзільнік, які ў патрэбны час выдае не мелодыю, а прыемны …
6. Ой, ладачкі-ладкі, надышлі …
9. З якой краіны паходзіць шахматыстка Юдыт Полгар, якая ў 15 год стала гросмайстрам, абыграўшы Карпава і Каспарава. Адзіная шахматыстка, што дасягнула суперграсмайстарскага рэйтынгу.
10. Вострая інфекцыйная кішэчная хвароба.
11. Напад з мэтай абрабавання, які суправаджаецца пагрозамі, гвалтам, забойствам.
12. Уладар вадаёмаў, які жыве ў вадзе.
13. Гэта слова па-грэчаску значыць «адпачынак» – так называліся лаўкі, на якіх адпачывалі.
14. Прадмет, які выстаўляецца ў музеі або на выстаўцы для агляду.
17. Даль тлумачыў гэта слова, што ўзнікла ў 1590 годзе, як душаслоўе.
18. Рухаючая сіла, а таксама крыніца такой сілы, якая цягне.
20. Адзінае ў свеце мора без берагоў.
23. Вучэнне аб маралі, як адной з форм грамадскай свядомасці, аб яе сутнасці, законах развіцця і ролі ў грамадскім

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
3. Яе выраблялі на фабрыцы ў Смаргоні, заснаванай у 1590 годзе.
4. Гаспадар залатой табакеркі з беларускай казкі.
5. Самае смачнае лякарства.
7. Вёска ў Калінкавіцкім раёне, дзе каля 26 000 год таму была стаянка эпохі палеаліту.
8. Яго часам называюць Вялікім Чырвоным востравам. Глеба тут сапраўды мае чырванаватае адценне, таму што ў ёй ёсць залежы жалеза і алюмінію.
10. Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі.
14. Павышаная пачуццёвасць, пачуццёвы элемент.
15. Рэчыва, якое змяняе хуткасць хімічнай рэакцыі, але колькасна не расходуецца і ў склад прадуктаў не ўваходзіць.
16. Гэтыя жывёлы выцеснілі з вострава Кеймана-Грандзі ў 35 кіламетрах ад ўзбярэжжа Бразіліі і людзей, і іншых жывёл. Амаль усе людзі, якія туды траплялі, жывымі не вярталіся. Аднак заўсёды з'яўляюцца смельчакі, якіх не пужае небяспека. Яны лічаць, што на востраве піраты схавалі скарбы, а гэтых істот пакінулі іх абараняць.
18. Зацукраваны плод, зацукраваная скурка плода.
19. Недарэчнасць, бязглуздзіца, лухта.
21. Менавіта яно выратавала Эйфелеву вежу. Яе збіраліся дэмантаваць праз 20 год. Але за гэты час на вежы стаялі прыстасаванні, каб працавала яно.
22. Рэзкі, высокі гук, які ўтвараецца моцным выдыханнем паветра праз сціснутыя губы ці зубы, а таксама пры дапамозе пэўнага прыстасавання.

## Адказы на крыжаванку з №39

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Прыгажосць. 3. Ядловец. 4. Жанр. 6. Сала. 7. Глядач. 9. Заўтра. 11. Імжа. 13. Сена. 14. Нота. 15. Вязынь. 17. Гушчар. 18. Ніз. 19. Набор. 22. Навіна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Жылка. 3. Якар. 5. Астанкі. 6. Сігнал. 8. Ягада. 10. Гуртам. 12. Свежы. 14. Нага. 15. Верасень. 16. Ганьба. 17. Гадзіннік. 20. Бачыла. 21. Журнал. 23. Цемра.

## ● ГАРАСКОП НА 2-8 КАСТРЫЧНІКА



**АВЕН.** Ідэальны перыяд гарманічных адносін. Нічога не будзе вас хваляваць і нерваваць, усё будзе ісці гладка і прыемна. Радуйцеся, што цяпер усё лагодна і спакойна.



**ЦЯЛЕЦ.** Падумайце пра сваё здароўе. Пра сябе варта клапаціцца, таму што ніхто лепш не ведае, што вам трэба, акрамя вас саміх. Паслухайце свой арганізм і тое, што яму неабходна. Варта сябе часам і папесціць.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вас чакае перыяд павышанай працаздольнасці. Вы і так працуеце, нібы не ведаеце ні стомы, ні ляноты. Цяпер жа ваш узровень проста зашкальвае. Бярыцеся за ўсе хвасты – у вас дакладна атрымаецца справіцца з усім.



**РАК.** Складаныя адносіны складана падтрымліваць. Але часам складанасці робяць жыццё больш яскравым, поўным і насычаным. Галоўнае, каб яны развівалі і вялі наперад. Так што не бойцеся, складана – значыць, цікава.



**ЛЕЎ.** Часам падаецца, што лёс завёў нас не на тую дарогу, і незразумела, як вярнуцца назад. Але да таго, што ёсць сёння, прывялі рашэнні, якія прымалі ўчора. Рашэнні, якія вы прымеце сёння, прывядуць да дарогі, па якой давядзецца ісці заўтра.



**ДЗЕВА.** Гэта добры час, каб уважлівей прааналізаваць многія рэчы. Але падчас прыняцця рашэння зважайце не толькі тое, што трэба, але і свае пачуцці. Часам гэта самае важнае і каштоўнае, што толькі можа быць у свеце.



**ШАЛІ.** Цяпер вы будзеце спрабаваць дасягнуць немагчымага. Таму лепш узяцца за справы, у якіх вы добра арыентуецеся. Не варта загружаць сябе і патрабаваць ад сябе немагчымага. Лепш сканцэнтруйцеся на тым, у чым дакладна ўпэўнены.



**СКАРПІЁН.** Выдатны перыяд, каб зрабіць справы, якія даўно патрабуюць увагі. У вас добрыя шанцы з поспехам правесці дзелавыя перамовы. Магчыма, вы зможаце знайсці паразуменне з тым, з кім даўно не маглі дасягнуць кансэнсусу. Не шкадуйце час на планаванне.



**СТРАЛЕЦ.** Перыяд вельмі добры для таго, каб шчыльна заняцца здароўем. Пастарайцеся забяспечыць сябе базавымі рэчамі – паўнавартасным сном, харчаваннем і прагулкамі.



**КАЗЯРОГ.** Усе знаёмыя ведаюць, што з вамі заўсёды прыемна бавіць час. Але і тым, хто падтрымлівае, часам таксама патрэбная падтрымка. Не бойцеся шчыра папрасіць, каб у няпростай сітуацыі блізкія былі побач.



**ВАДАЛЕЙ.** Усім нам часам трэба аддацца фантазіям. Бо калі ва ўяўленні малюеш тое, чаго няма ў рэальнасці, адчуваеш сябе зусім па-іншаму. Паспрабуйце адчуць, чаго вы больш за ўсё хочаце. І пафантазіруйце, як будзе выглядаць ваша будучыня, калі гэта ўвасобіцца ў жыццё.



**РЫБЫ.** Мэту вы заўсёды бачыце добра. А вось спраўляцца з перашкодамі часам варта з найменшымі стратамі. Часам вы хочаце зрабіць усё адначасова ідэальна, але так не бывае. Бываюць перыяды, калі на першым месцы праца. Але такія перыяды неабходна замяняць спакойнымі выхаднымі з блізкімі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 5 | | | | 8 |
| | 2 | 7 | | | | 4 | | 6 |
| | 1 | 4 | | | | 2 | | 3 |
| 9 | | 8 | | | | 3 | | |
| 1 | | | | 2 | | | 4 | 7 |
| | 7 | | | | 8 | | | 9 |
| | | 1 | | 6 | | | | 5 |
| | 9 | | | 3 | | | | 4 |
| | 5 | 6 | | | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram! RG_RHBY


● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым запомніўся верасень?



**Аляксандр:**
– Восень мне запомнілася дэманстрантамі, выбарамі Лукашэнкі, пераваротамі і гэтак далей. А яшчэ месцы грыбныя, надвор'е цёплае і наш сонечны горад.



**Аксана:**
– Цёпла, светла, яснае неба, сонечнае надвор'е.



**Ірына:**
– У пачатку верасня было цёпла, а так нават і не ведаю, што запомнілася. Дні цяпер аднолькавыя. Палітычныя падзеі вельмі востры запомніліся, а так больш нічога.



**Алена:**
– Я настаўніца, мне запомніўся першы школьны дзень. Вось такі ясны, сонечны. Хочацца, каб гэты высакосны год быў такім ясным, сонечным і цёплым, як гэта восень. Каб усе ў нашай дзяржаве памірыліся, знайшлі нейкі кансэнсус і каб мы добра, шчасліва жылі ў сваёй прыгожай краіне.



**Аляксандр:**
– Больш за ўсё запомніліся пратэсты. Людзі на іх выходзяць, бо выбары былі несумленныя, таму што бяззбройных людзей збівалі.



**Ірына:**
– Добрае надвор'е, а так усё добра. На дэманстрацыі я не хаджу ніколі, жыву, як і раней. Нам пенсіянерам усяго хапае.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**

## Гурт «Sumarok» запісаў кліп на песню «Чэрці». У ім – кадры з пратэстаў у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра кліп расказаў лідар гурта, тэхнічны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Ігар Палынскі. Прэм'ера адбылася 29 верасня.**




Вокладка кліпа.

Песню «Чэрці» лідар рок-гурта Sumarok напісаў і ўпершыню выканаў у снежні 2015 года. Падзеі сёлетніх вясны і лета паказалі, што песня не страціла актуальнасць. Музыкі гурта запісалі песню летам.

– Я веру, што кожны з нас хутка будзе шчаслівa ўсміхацца – у свабоднай, шчаслівай, паспяховай Беларусі. Мы – годныя людзі ў годнай краіне. Памятайце пра гэта кожнае імгненне. Пра гэта – наш новы трэк», – заявіў Ігар Палынскі, прэзентуючы песню ў анлайне.

«Чэрці» – першы кліп Sumarok за 11 год існавання гурта. Здымкі адбываліся ў верасні ў Маладзечне. У кліпе выкарыстоўваюцца кадры з пратэстаў у Маладзечне і іншых гарадах Беларусі, а таксама з мітынгаў аб'яднаных штабоў Святланы Ціханоўскай, Марыі Калеснікавай і Веранікі Цапкалы. У аснове сюжэта – успаміны галоўнага героя, які на ўласныя вочы бачыў затрыманні і збіццё маладзечанцаў 9 і 10 жніўня.

Рэжысёрам кліпа выступіў блогер, аўтар YouTube-канала Рэйні **Аляксей Кастоўскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

● **У першыя дні кастрычніка навукоўцы зладзілі другія Крэўскія чытанні – Міжнародную навукова-практычную канферэнцыю, прысвечаную Крэву. Частку мерапрыемстваў правялі ў Смаргоні і ў самім былым мястэчку.**

## 3 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 4-5 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -2,4°С у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +21,7°С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,2 мм у 2019 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Ціснiце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

• на месяц – 4 рублі 96 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

• на месяц – 16 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№40 (1327) 2.10.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1606. Падпісана ў друк у 9.00 1.10.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.